# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў
і Беларускага таварыства дружбы і культурнай
сувязі з замежнымі краінамі

## ЗМЕСТ



• № 4 (40) • КРАСАВІК • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў,**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by/mab/k&d.html**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Станіслаў Манюшка (да 180-годдзя з дня нараджэння).**
**Літаграфія Ляфусье з “Album de Vilna” І . Вільчынскага (1846).**
**Артыкул пра С. Манюшку — на стар 3–6.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам МАБ, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 1998 г.): у Беларусі — **120 тысяч рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы — 3015205833015**
**у філіяле “Акадэмічны” КБ “Поиск”, г. Мінск, код 730;**
**валютны — 3015000005287**
**у Мінскім абласным упраўленні АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**

*Мар'ян Фукс (Варшава)*

## МАНЮШКА НА БЕЛАРУСІ

**Мар'ян Фукс** — прафесар, вядомы польскі музыказнаўца. Аўтар прац пра Станіслава Манюшку.

Атмасфера роднага дома Станіслава Манюшкі мела вялікі ўплыў на фарміраванне характару і таленту будучага заснавальніка польскай нацыянальнай оперы. Гэта падкрэсліваюць і шматлікія біёграфы Манюшкі, звяртаючы ўвагу на тое, што на станаўленне асобы кампазітара пераможна ўплывала як атмасфера шляхецкага дома, так і кантакты з народнай музыкай беларускай вёскі.

Належыць, аднак, адзначыць, што амаль усе біёграфы Манюшкі недаацэньваюць значэнне юнацкага перыяду яго жыцця — перыяду, звязанага з Беларуссю, яе ўплыву не толькі на выхаванне, але і на лёс, творчасць вялікага польскага кампазітара.

Сам факт нараджэння Станіслава Манюшкі ў Убелі, на Смілавіччыне, што ў 50-ці кіламетрах ад Мінска, безумоўна, нічога не прадвызначае. Мог жа ён, як і многія прадстаўнікі тагачаснай шляхты, асталявацца на зямлі, лепей ці горш гаспадарыць ў сваім маёнтку ці стаць добра забяспечаным царскім чыноўнікам, — да чаго, урэшце, яго бацька Чэслаў першапачаткова і імкнуўся.

Аднак здарылася так, што дзяцінства Станіслава Манюшкі праходзіла ў атмасферы, якая спрыяла фарміраванню яго таленту і музычных захапленняў. Культурная і музычна адораная маці, вельмі адукаваныя, прагрэсіўныя і паважаныя навакольнымі сялянамі дзядзькі і, безумоўна, спакой і адносна бесклапотнае жыццё ціхай беларускай вёскі стваралі ўсе ўмовы для таго, каб уражлівая душа дзіцяці і яго талент былі скіраваны ў належным напрамку.

На жаль, ранні перыяд жыцця Манюшкі, а таксама яго юнацкія гады ранейшымі біёграфамі трактаваліся даволі спрошчана. Да прыкладу, Валіцкі (1873), Палінскі (1914), Яхімецкі (1921), Апенскі (1924), Невядомскі (1928) і нават выдатны наш сучасны біёграф Манюшкі — Вітальд Рудзінскі ("Станіслаў Манюшка ў Вільні", Кракаў, 1955; "Станіслаў Манюшка ў Варшаве", Варшава, 1961) абмяжоўваюцца толькі канстатацыяй таго, што стваральнік "Галькі" нарадзіўся 5 мая 1819 г. у Убелі на Міншчыне, і даволі павярхоўным апісаннем атмасферы роднага дома кампазітара і яго бліжэйшых сваякоў.

На мой сціплы погляд, не надаецца належная ўвага таму факту, што на развіццё, жыццё і творчасць Манюшкі вельмі паўплывала знаходжанне юнага Станіслава ў 30-х гг. мінулага стагоддзя ў Мінску.

15 жніўня 1827 г. васьмігадовы Станіслаў упершыню выехаў з Убеля ў Варшаву, каб, як тады казалі, пачаць "набыванне ведаў". Жывучы ў Варшаве, малы

Манюшка разам з бацькамі на лета вяртаўся ў родны Убель. Аднак яго знаходжанне ў Варшаве было нядоўгім, бо эканамічныя клопаты і стан бацькоўскага маёнтка прымусілі спыніць у 1830 г. "набыванне ведаў" у Варшаве. Станіслаў вяртаецца ў Убель, а пасля працягвае вучобу ў Мінску.

І менавіта гэты перыяд, думаю, найважнейшы ў жыцці маладога Манюшкі. У Мінск ён пераехаў разам з бацькамі, якія прыбылі сюды, каб наглядаць за вучобай сына.

У Мінску сям'я Манюшкаў жыла з 1831 да 1837 г. — пэўны час на рагу вуліц Валоўскай і Дамініканскай (гэты дом стаіць да сённяшняга дня, вуліцы ж цяпер маюць назвы Інтэрнацыянальная і Энгельса), у доме Клімкевіча, а потым на Высокім рынку, у доме Паляковавай.

Дом Манюшкаў у Мінску, яшчэ болей, чым у Убелі, быў напоўнены атмасферай культурнага жыцця. Маці спявала і іграла на фартэпіяна, ладзіла ў сваім доме музычныя вечарыны, запрашаючы музыкантаў і артыстаў, якія гасцілі ў Мінску. Асабліва частым госцем у Манюшкаў бываў у тыя часы музыкант і літаратар Пётр Карафа-Корбут, а таксама музыкант, кіраўнік мясцовага аркестра і настаўнік музыкі Дамінік Стэфановіч.



*Двор у Убелі, дзе нарадзіўся Станіслаў Манюшка*

Пра гэтага педагога многія біёграфы Манюшкі, напрыклад, А. Валіцкі, пішуць з пэўнай непавагай, сцвярджаючы, што быў ён "зусім пасрэдны піяніст". Напэўна ж, памыляліся тыя біёграфы, што лічылі, як Валіцкі, нібы Стэфановіч і іншыя "зусім нават не падазравалі, які "матэрыял" вучылі". Дамінік Стэфановіч з усёй упэўненасцю быў дасканала з'арыентаваны на незвычайны талент Станіслава Манюшкі і нават, як піша Карасоўскі (1), мог быць "асляплены талентам свайго вучня".

Магчыма, што Стэфановіч быў педагогам не надта высокага класа, але, хто ведае, ці не ён гэта змог абудзіць у маладога Станіслава паслядоўнае і няўхільнае замілаванне музыкай, а таксама накіраваць яго, калі не генія, то, безумоўна, незвычайны талент, на адпаведны шлях. Здаецца, што гэты сціплы правінцыяльны настаўнік ашчаслівіў польскую музыку, бо быў чалавекам, дзякуючы якому Манюшка стаў тым, кім быў. Бо менавіта пад клапатлівым крылом Дамініка Стэфановіча Манюшка атрымоўваў музычную адукацыю ад дванаццаці да шаснаццаці гадоў жыцця, менавіта Стэфановіч падрыхтаваў яго да засваення кампазітарскага майстэрства ў Рунгенхагена ў Берлінскай кансерваторыі. Некаторыя біёграфы

Манюшкі нават падазраюць, што Дамінік Стэфановіч быў тайным сааўтарам твора, дарэчы, даволі слабога, пятнаццацігадовага Манюшкі — камедыйнай оперы “Biuraliści” (“Канторскія служачыя”).

Наладжаныя ў юнацкія гады пражывання ў Мінску кантакты і знаёмствы аказаліся вельмі трывалымі і працяглымі. Пасля заканчэння вучобы ў Берліне, жывучы ў Вільні, а пазней у Варшаве, Манюшка яшчэ некалькі разоў прыязджаў у Мінск, дзе ў яго было шмат знаёмых і сяброў. Прыводзяць яго сюды, урэшце, таксама і заблытаныя маёмасныя справы.

У Мінску ён быў у 1843 г., дзе якраз трупа Шмідкопфа ўпершыню паставіла аперэту Манюшкі “Латарэя”. Пазней Манюшка яшчэ некалькі разоў прыязджаў у Мінск — у 1860, 1861, 1863 гг. Апошні раз ён наведаў Мінск у 1864 г., калі ўжо быў вядомым і вельмі шанаваным кампазітарам.

У Мінску ў Манюшкі было шмат сяброў. Цесныя сяброўскія адносіны і плённае супрацоўніцтва звязвала яго з беларуска-польскім пісьменнікам Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам. Вынікам гэтага сяброўства былі лібрэта, якімі пісьменнік забяспечваў Манюшку. У выніку 23 і 24 верасня 1841 г. у Мінску, да ўрачыстага



*Пётр Карафа-Корбут, мінскі маэстра, часты госць у Манюшкаў. Малюнак Чэслава Манюшкі, бацькі кампазітара*

прыезду віленскага генерал-губернатара Мірковіча, была пастаўлена аперэта “Рэкруцкі набор” на музыку Манюшкі і словы Дуніна-Марцінкевіча. Б. Смольскі ў сваёй кніжцы (2) піша, што лібрэта і музыка гэтай аперэты згубіліся. Аднак, музыказнаўца, дацэнт Уладзімір Позняк, нядаўна памерлы, знайшоў некалькі гадоў таму гэтыя матэрыялы ў Вільні.

Дунін-Марцінкевіч з’яўляецца таксама аўтарам лібрэта такіх твораў Манюшкі, як опера “Чарадзейная вада” (уцалела уверцюра) і аперэта “Спаборніцтва музыкаў”.

Найбольшай увагі варты сумесны твор абодвух аўтараў — 2-актавая опера “Sielanka” (“Ідылія”), упершыню пастаўленая ў Мінску ў 1852 г., а ў 1853–1855 гг. у Бабруйску, Віцебску, Нясвіжы.

У час знаходжання ў Мінску ў 1843 г. Манюшка па заказу мясцовага тэатра піша музыку да драмы “Каспар Хаўзер” Анісье, Буржуа і д’Епьеры.

З перапіскі стваральніка “Галькі” вынікае, што яго сувязі з тагачасным мінскім культурным жыццём былі вельмі сардэчнымі і трывалымі. Але Манюшка быў

любімы і папулярны таксама сярод простых жыхароў горада, насельніцтва беларускіх гарадоў і вёсак, яго песні ведалі і ахвотна спявалі. Няма чаму, зрэшты, здзіўляцца, бо матывы беларускага музычнага фальклору гучалі як у яго шматлікіх песнях, так і ў музыцы аперэт і опер. Тагачасны мінскі друк ў рэцэнзіях на “Ідылію” звяртаў увагу на цудоўную мелодыю і танцы, заснаваныя на беларускіх матывах.

Аб папулярнасці Манюшкі сведчыць і той факт, што яго выдатны твор — опера “Галька” — у Мінску і ў Гродне была паказана адразу ж пасля віленскай пастаноўкі — у 1856 г., у той час, калі ў Варшаве прэм’ера (у новай 4-актавай версіі) адбылася толькі ў студзені 1858 г.

Адносіны Манюшкі з мінскай інтэлігенцыяй дапамагае асвятліць артыкул, дакладней успаміны Адама Плуга, змешчаныя ў варшаўскім “Tygodniku Ilustrowanym” (3). Аўтар расказвае пра асабістае знаёмства з Манюшкам у Мінску ў 1856 г. “у час грамадзянскіх выбараў, што адбываліся там”. Плуг піша, што ў той час у Мінску для шматлікіх прыезджых арганізоўваліся шматлікія забаўляльныя мерапрыемствы, што адбывалася многа цікавых канцэртаў з удзелам вядомых музыкантаў, сярод якіх выступаў таксама польскі скрыпач Апалінарый Концкі.

Паводле Плуга, сам Манюшка “не даваў канцэртаў, аднак, праз увесь час, праведзены ім у Мінску, быў аб’ектам няспынных авацый”.

Пастаянным госцем бываў Манюшка ў кіпячым інтэлектуальным жыццём доме Дуніна-Марцінкевіча, літаратара, што пісаў таксама па-беларуску пад псеўданімам Навум Прыгаворка. У яго доме збіралася артыстычная, літаратурная эліта, шмат музыкантаў. Зрэшты, дом Марцінкевіча заўсёды быў напоўнены музыкай, яго дзеці былі вядомыя ў Мінску сваімі “цудоўнымі” музычнымі здольнасцямі. Адам Плуг апісвае вечар у доме Дуніна-Марцінкевіча, у час якога гаспадар ушанаваў свайго славутага госця Станіслава Манюшку. Ушанаванне мела форму прыгожага верша, напісанага па-беларуску (яго, дарэчы, у польскім перакладзе прывёў аўтар успамінаў). Дзяўчаты, дочкі паэта, уручылі Манюшку букет прыгожых кветак. Размова ішла пра творчасць Манюшкі, кампазітар расказваў пра свае перыпетыі з “Галькай”, аб пастаноўцы якой у Варшаве пару год таму хадайнічаў, сам выконваў фрагменты з гэтай оперы, напяваў арыі, якімі дапаўняў свой уласны твор.

Такім чынам, на прыкладзе гэтых даволі скупых успамінаў бачым, што сувязі і кантакты Станіслава Манюшкі з Беларуссю, з яе народам, інтэлігенцыяй былі вельмі моцнымі і працягваліся праз усё яго жыццё.

*Пераклад з польскай мовы* ***Ірыны Тамільчык***

---

(1) Tygodnik Ilustrowany. 1859. Nr 8.
(2) Гл.: Смольский Б. С. Белорусский музыкальный театр. Минск, 1963.
(3) Tygodnik Ilustrowany. 1896. Nr 19.

*Дзмітрый Крывашэй (Гродна)*

# ПРЫСУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў КРАІНАХ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І ЗАХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ Ў 1991–1996 ГАДАХ.

Выхад аднаўленай незалежнай Беларусі на міжнародную арэну прывёў да неабходнасці перагляду не толькі палітычнай і эканамічнай базы жыцця краіны, але прымусіў перагледзець і культурную палітыку, у першую чаргу яе скіраванасць.

Надзвычай актуальным у сярэдзіне 90-х гг. стала меркаванне, што знешняя палітыка Беларусі павінна будавацца як палітыка стварэння ўмоў поўнай рэалізацыі нашай краінай сваіх нацыянальных інтарэсаў у сусветным супольніцтве (1).

**Дзмітрый Крывашэй** — аспірант кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Даследуе праблемы развіцця культурных сувязей Беларусі з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.

Данесці ўсё багацце колераў і адценняў культур народаў Беларусі, стварыць станоўчы вобраз краіны на міжнароднай арэне, паказаць належнасць да еўрапейскай культурнай традыцыі, знайсці аптымальную мадэль культурных узаемадачыненняў з усходнімі і заходнімі суседзямі стала адной з галоўных задач знешняй палітыкі нашай дзяржавы.

Пры пошуку асноўных партнёраў краіны асобна выдзялялася Заходняя Еўропа, якая працягвала адыгрываць адну з ключавых роляў у сістэме міжнародных адносін. Адначасова разглядалася як вельмі важнае наладжваннне дзейсных адносін з сярэднімі і малымі дзяржавамі Цэнтральнай Еўропы (2).

Паспрабуем прааналізаваць, што з нацыянальнага мастацтва Беларусь змагла прапанаваць замежнаму гледачу, у якой меры наша культура была прадстаўлена за мяжой, якія поспехі і перашкоды існавалі на шляху прасоўвання беларускай нацыянальнай культуры на Захад.

**1. Прававое забеспячэнне супрацоўніцтва**

Рэспубліка Беларусь на пачатак 1995 г. была прызнана 123 дзяржавамі свету, яна ўстанавіла дыпламатычныя адносіны з 97 дзяржавамі. На той час у Мінску функцыянавалі 19 пасольстваў, з іх 7 — краін Цэнтральнай і Заходняй Еўропы (Польшча, Германія, Францыя, Вялікабрытанія, Італія, Балгарыя, Румынія). Дзейнічалі аддзяленне ААН, прадстаўніцтвы Сусветнага банка і Еўрапейскага Саюза.

У сваю чаргу, Беларусь (на канец 1996 г.) мела дыпламатычныя і консульскія прадстаўніцтвы ў такіх цэнтральна- і заходнееўрапейскіх краінах, як Польшча (Варшава, Гданьск, Беласток), Германія (Бон, Берлін), Італія, Швейцарыя, Нідэрланды, Чэхія, Аўстрыя, Балгарыя і Грэцыя (па сумяшчальніцтву), Бельгія, Вялікабрытанія і Ірландыя (па сумяшчальніцтву), Румынія, Францыя (па сумяшчальніцтву — у Іспаніі і Партугаліі), Югаславія. Пры гэтым паслы нашай краіны з'яўляліся адначасова прадстаўнікамі Беларусі пры міжнародных арганізацыях. Сярод іх — ЮНЕСКО, Савет Еўропы, Еўрапейскі Саюз.

Міжурадавыя пагадненні аб супрацоўніцтве ў галіне культуры былі заключаны з Рэспублікай Балгарыя (кастрычнік 1993), Федэратыўнай Рэспублікай

Германія (сакавік 1994), Румыніяй (май 1993), Злучаным Каралеўствам Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі (ліпень 1995), Саюзнай Рэспублікай Югаславія (сакавік 1996). Акрамя гэтага Рэспублікай Беларусь былі падпісаны Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве з Еўрапейскай Супольнасцю і яе членамі (Брусэль, сакавік 1995) і Канвенцыя краін Чарнаморскага рэгёна аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, адукацыі, навукі і інфармацыі (Стамбул, сакавік 1993).

З Італьянскай Рэспублікай была падпісана Рабочая праграма супрацоўніцтва ў галіне культуры, адукацыі і навукі на перыяд 1996–1999 гг. (верасень 1996). Абодва ўрады прызналі сілу Пагаднення па культуры паміж Італіяй і СССР ад 2 лютага 1960 г. у адносінах да беларуска-італьянскіх сувязей.

Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь былі заключаны Пратакол аб супрацоўніцтве з Міністэрствам культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча на 1995–1996 гг. (сакавік 1995); Пагадненне аб супрацоўніцтве з Міністэрствам культуры Славацкай Рэспублікі на 1994–1995 гг. (1994)

Пагадненні і пратаколы аб супрацоўніцтве прадугледжвалі шырокі ўзаемны абмен дасягненнямі нацыянальных культур самымі разнастайнымі шляхамі, а таксама магчымасць узнікнення і развіцця непасрэдных сувязей паміж культурнымі ўстановамі, асобнымі рэгіёнамі краін.

Значным крокам наперад у выпрацоўцы знешнекультурнай палітыкі нашай дзяржавы стала прыняцце калегіяй Міністэрства культуры і друку ў кастрычніку 1995 г. Канцэпцыі развіцця міжнародных сувязей. Яна вызначыла прынцыпы развіцця міжнароднага супрацоўніцтва. Пры гэтым асноўнымі задачамі і мэтамі ў развіцці міжнародных культурных дачыненняў называлася:

• садзейнічанне ўзаемаўзбагачэнню духоўнага жыцця народаў Беларусі;

• азнаямленне свету, найперш краін Еўропы з мастацтвам рэспублікі;

• інтэграцыя беларускай культуры і мастацтва ў духоўнае жыццё ўсяго свету, у еўрапейскую і сусветную інфармацыйную прастору, міжнародны кніжны рынак;

• спрыянне развіццю міжнародных сувязей.

Больш поўнаму развіццю культурных сувязей спрыяла далучэнне Беларусі да універсальных (сусветных) і спецыяльных шматбаковых міжнародных дагавораў.

У 1993 г. у Страсбургу адбылося падпісанне дакументаў аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Еўрапейскай культурнай канвенцыі 1954 г.

### 2. Беларуская нацыянальная культура ў дзейнасці міжнародных міжурадавых арганізацый

Вялікае значэнне для прапаганды і папулярызацыі беларускай нацыянальнай культуры ў свеце мела дзейнасць нашай краіны ў ЮНЕСКО.

Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай усіх канвенцый ЮНЕСКО ў галіне культуры, што дае ёй права браць удзел ва ўсіх мерапрыемствах, якія праводзяцца ў рамках рэалізацыі гэтых канвенцый. У лістападзе 1995 г. Беларусь прыняла ўдзел у чарговай асамблеі краін-удзельніц Канвенцыі па абароне сусветнай куль-

турнай і прыроднай спадчыны. З сакратарыятам праграмы “Развіццё краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы” (ПРОЦВЕ) была дасягнута дамоўленасць аб уключэнні Мірскага замка ў план работы ЮНЕСКО на 1996 г. Для падрыхтоўкі міжнароднага энцыклапедычна-даведачнага выдання “Жанчыны з легенды” быў падрыхтаваны інфармацыйны і ілюстрацыйны матэрыял пра Ефрасінню Полацкую і Рагнеду.

На сутыку культуры, адукацыі і інфарматыкі была створана праграма ЮНЕСКО “Памяць свету” — Memoria mundi. Праграма займалася пытаннямі захавання, папулярызацыі і пераносу на электронныя носьбіты дакументальнай культурнай спадчыны. Нацыянальная бібліятэка Беларусі падрыхтавала матэрыял, у тым ліку і на электронных носьбітах, для ўключэння ў сусветны рэгістр па гэтай праграме. Якасць падрыхтоўкі была высока ацэнена ў Сакратарыяце ЮНЕСКО.

У 1996 г. Нацыянальная камісія Беларусі па справах ЮНЕСКО распачала падрыхтоўку матэрыялаў пра архітэктурныя каштоўнасці Беларусі, якія ў далейшым павінны былі прапанавацца ў спіс культурнай спадчыны ЮНЕСКО.

Па прапанове Міністэрства культуры быў праведзены адбор кандыдатаў на ўдзел у конкурсе стыпендыятаў ЮНЕСКО ў розных галінах культуры і мастацтва. Міністэрствам культуры былі падрыхтаваны для разгляду ў Сакратарыяце ЮНЕСКО праекты па аднаўленню гістарычных і культурных помнікаў, якія адносяцца да нацыянальных дасягненняў Беларусі (сярод іх — планы па рэстаўрацыі Нясвіжскага і Мірскага замкаў).

З атрыманнем незалежнасці Беларусь упершыню змагла самастойна выступіць з прапановамі, якія дазволілі карыстацца сродкамі з рэгулярнага бюджэта арганізацыі.

Стала традыцыяй правядзенне ў дні сесій Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО беларускай дэлегацыяй нацыянальных вечарын. У 1991 г. — з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння М.Багдановіча, у 1993 г. — да 100-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, а ў 1994 г. у штаб-кватэры ЮНЕСКО — Дзён беларускай культуры.

Як адзначалася на пасяджэнні Нацыянальнай камісіі РБ па справах ЮНЕСКО 5 лютага 1996 г., “Рэспубліка Беларусь, з’яўляючыся адным з найбольш значных плацельшчыкаў і выплачваючы поўнасцю свой узнос, магла б разлічваць на атрыманне ад арганізацыі сродкаў, якія значна пераўзыходзяць суму яе ўзносу. Набыты за чатыры гады вопыт самастойнага, па-за рамкамі СССР, удзелу ў арганізацыі і напрацаваны Рэспублікай за гэты час аўтарытэт дазваляюць гаварыць аб гэтым з дасдатковай доляй упэўненасці… Беларусь заявіла сябе як краіна з высокім інтэлектуальным патэнцыялам, з багатымі нацыянальнымі традыцыямі і культурай, здольнай працаваць з сусветным супольніцтвам на роўных і прапанаваць яму многія са сваіх дасягненняў” (3).

Пачынаючы з 16 верасня 1992 г. Беларусь мела статус “спецыяльна запрошанай” дзяржавы ў рамках дзейнасці Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі чатыры разы ў год прымала ўдзел у рабоце ПАСЕ.

Далучэнне Рэспублікі Беларусь да Еўрапейскай культурнай канвенцыі ў кастрычніку 1993 г. дазволіла атрымаць доступ да праграм еўрапейскага супрацоўніцтва ў галіне культуры, адукацыі, спорту, СМІ і інш. Савет Еўропы выдзяляў сродкі на стажыроўкі, кансультацыі, правядзенне міжнародных семінараў, канферэнцый і г.д. За няпоўныя 5 гадоў (верасень 1992 – снежань 1996) больш за 300 прадстаўнікоў разнастайных галін улады Беларусі (сярод іх і прадстаўнікі ўстаноў культуры) прымалі ўдзел у канферэнцыях, семінарах, стажыроўках, арганізаваных у рамках СЕ (4).

Савет Еўропы наладжваў і фінансаваў аналагічныя мерапрыемствы ў Беларусі. Сярод іх — Міжнародны семінар ІКАМОС па праблеме аховы паркаў і ландшафтаў (май – чэрвень 1995 г., Нясвіж), Міжнародны семінар “Трансрэгіянальныя і інтэрнацынальныя аспекты культурнай палітыкі” (кастрычнік – лістапад 1996 г., Мінск), міжнародны семінар-прадстаўленне праграмы “Культурныя шляхі праз Беларусь” ( верасень 1995 г., Полацк).

Аднак адсутнасць належнай зацікаўленасці з боку уладных структур краіны не дазволіла развіццю больш насычанага і разнастайнага супрацоўніцтва з Саветам Еўропы. Пэўныя перашкоды стварыла запазычанасць Беларусі ў бюджэт гэтай арганізацыі.

З чэрвеня 1994 г. Беларусь з’яўлялася асацыяваным, а з чэрвеня 1996 г. — паўнапраўным членам рэгіянальнага аб’яднання Цэнтральна-Еўрапейская ініцыятыва (ЦЕІ), створанага ў 1989 г. краінамі дунайска-адрыятычнага субрэгіёна з мэтай пашырэння эканамічнага, культурнага і палітычнага супрацоўніцтва дзяржаў цэнтральна-еўрапейскага рэгіёна. У 1996 г. у склад ЦЕІ ўваходзіла 15 дзяржаў, дзейнічала 16 рабочых груп па больш як 120 праектах. Сярод іх — група па культуры (краіна-старшыня Славакія).

Неабходна адзначыць, што за час свайго ўдзелу ў рабоце Цэнтральна-Еўрапейскай ініцыятывы Беларусь да пачатку 1997 г. не выступіла з праектам якоганебудзь мерапрыемства ў разнастайных галінах супрацоўніцтва. Хаця не выклікае сумнення, што актывізацыя ўдзелу ў рабоце гэтай арганізацыі дазволіла б наладжванню больш гібкай і прагматычнай рэгіянальнай кааперацыі у правядзенні дадатковага маста з ЕС пры садзейнічанні такіх краін-удзельніц, як Італія і Аўстрыя. Не трэба забывацца і пра тое, што гэта рэгіянальнае аб’яднанне з сярэдзіны 90-х гг. ставіла сваёй асноўнай задачай садзейнічанне тым дзяржавам-членам, якія жадаюць уступіць у Еўрапейскі Саюз.

**3. Беларускае тэатральнае мастацтва**

У дадзены перыяд беларускі тэатр упэўнена ўваходзіць у супольнасць еўрапейскіх тэатраў, маючы змястоўны і пераканаўчы фон (сваю гістарычную спадчыну і творчы патэнцыял). Тэатры Беларусі супрацоўнічалі з тэатрамі Польшчы, Францыі, Іспаніі, Італіі, Германіі і іншых краін.

Аднак замежнаму гледачу нашы тэатры прапаноўвалі ў асноўным пастаноўкі п’ес небеларускай драматургіі. Таму вельмі прыемна адзначыць поспех за мяжой аўтэнтычнага беларускага тэатральнага мастацтва. У 1995 і 1996 гг. на Эдынбургскім фестывалі мастацтваў з пастаноўкамі п’ес “Круці не круці…” і

“Чорт і баба” па творах Францішка Аляхновіча выступаў тэатр “Дзе-Я?”. Па водгуках, тэатр трапіў у дваццатку лепшых тэатраў свету (5).

Небывалы ўзлёт і прызнанне беларускага балета ва ўсім свеце ў апошнія два дзесяцігоддзі звязаны з імем балетмайстра Валянціна Елізар’ева, творчасць якога стала з’явай культурнага жыцця рэспублікі. Падзеяй не толькі сезона, але і ўсяго тэатральнага жыцця, гісторыі беларускай харэаграфіі стала пастаноўка ў 1995 г. В.Елізар’евым балета “Жарсці” (“Рагнеда”) на музыку А.Мдзівані. Упершыню балетны спектакль на музыку беларускага кампазітара атрымаў найвышэйшае міжнароднае прызнанне. 29 красавіка 1996 г. у Парыжы В.Елізар’еву была ўручана узнагарода Міжнароднай асацыяцыі танца пры ЮНЕСКО за лепшую сучасную харэаграфію — прыз і дыплом “Бенуа дэ ля данс”. Гэта ўзнагарода ўручаецца штогод, пачынаючы з 1991 г. У склад міжнароднага журы ўваходзілі лепшыя харэографы свету.

**4. Музычнае мастацтва**

Беларускія музыканты і выканаўцы спрыялі вядомасці нашай культуры за мяжой. Шырокую геаграфію мела гастрольная дзейнасць калектываў Акадэмічнай харавой капэлы імя Р.Шырмы і Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Як поспех можна разглядаць удзел абодвух калектываў ў канцэртнай праграме Алімпійскіх гульняў у Барселоне 29 ліпеня 1992 г. (6), шэраг канцэртаў у Германіі на ўрачыстасцях, прысвечаных 50-й гадавіне завяршэння Другой сусветнай вайны (7).

Адметнай падзеяй у музычным жыцці краіны стала прэм’ера ў Мінску ў 1994 г. манументальнай сцэнічнай кантаты “Хрыстафор Калумб”, падрыхтаванай да прэм’еры двума згаданымі калектывамі і салістам-барытонам Віктарам Скарабагатавым. Твор гучаў на беларускай мове. Выкананне сталася пачаткам творчага праекта, наконт якога дамовіўся з аўтарам, італьянскім кампазітарам Леапольдам Гамберыні намеснік міністра культуры Беларусі У. Рылатка ў час свайго візіту ў Генуе. Неўзабаве быў зроблены запіс у нашай радыёстудыі, а на аснове яго ў Мілане выпусцілі кампакт-дыск (8).

У пачатку 90-х гг. вядомасць у свеце атрымала беларуская музычная школа ў сувязі з тым, што ў новых умовах наша таленавітая моладзь пачала выязджаць на міжнародныя конкурсы. Раней гэтага не было, бо існаваў вельмі складаны адбор: рэспубліканскі, міжзанальны, затым у Маскоўскай кансерваторыі. Таму беларускіх прадстаўнікоў на міжнародных конкурсах практычна не было. З атрыманнем незалежнасці з’явілася магчымасць прадстаўляць нашы маладыя таленты без непатрэбнага пасрэдніцтва (9).

Поспехамі сваіх выхаванцаў можа ганарыцца Беларуская акадэмія музыкі. За 1991–1995 гг. акадэмія падрыхтавала 75 лаўрэатаў міжнародных конкурсаў. Кожнае лета выязджалі за мяжу для ўдзелу ў розных мерапрыемствах каля 150–200 чалавек (10). Яны сталі пераможцамі творчых конкурсаў у Італіі, Германіі, Польшчы, Югаславіі і іншых краінах.

Летам 1995 г. у Беларускай акадэміі музыкі адбыўся нацыянальны фінал Міжнароднага конкурсу “Музыка і спевы краін Усходняй Еўропы”, абвешчанага фірмай

“Матарола”. Канцэрты праходзілі ў Украіне, Польшчы, Венгрыі, Латвіі, Чэхіі. Лепшыя выканаўцы прынялі ўдзел у заключным канцэрце, які адбыўся ў Швейцарыі. Ад Беларусі ў конкурсе ўдзельнічалі 16 выканаўцаў і адзін квартэт.

На высокім узроўні за мяжой прадстаўлялі беларускую культуру настаўнікі і навучэнцы Лідскага музычнага вучылішча. У 1991 г. эстрадны ансамбль “Фестываль”, якім кіраваў Уладзімір Бубен, выступіў на рэгіянальным конкурсе ў польскім горадзе Аўгустове. У 1992 г. Беластоцкае радыё прадаставіла магчымасць ансамблю іграць у прамым эфіры.

З 4 да 7 мая 1995 г. у Інсбруку (Аўстрыя) праходзіў IV Міжнародны фестываль акардэоннай музыкі, на які прыехалі 270 акардэонных аркестраў і ансамбляў з 12 краін. Адзіным прадстаўніком ад краін СНД аказаўся лідскі ансамбль. І ён меў гонар выступіць у заключным гала-канцэрце.



*Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі на гастролях у Францыі*

Не раз выязджаў за рубеж аркестр беларускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам Алены Сечка. У 1991–1992 гг. ён дэманстраваў сваё майстэрства ў Польшчы. У 1993 г. інструментальны ансамбль “Калейдаскоп” (кіраўнік Васіль Сечка) і вакальная група народнага хору (кіраўнік Тамара Харашылава) правялі двухтыднёвае турнэ па Германіі (11).

Значны ўклад у працэс пашырэння прысутнасці беларускай культуры ў краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы ўносілі творчыя саюзы. З 1990 г. Беларускі саюз музычных дзеячаў (БСМД), створаны ў 1988 г. як Музычнае таварыства БССР (у 1991–1995 гг. — Саюз музычных дзеячаў Беларусі), устанавіў творчыя сувязі з Музычным саветам зямлі Бадэн-Вюртэмберг. У рамках гэтага супрацоўніцтва за 1990–1995 гг. 19 беларускіх музычных калектываў (з агульнай лічбай удзельнікаў 620) прадэманстравалі сваё майстэрства на прэстыжным Міжнародным фестывалі “Еўрапейскія музычныя сустрэчы” (12).

Яскравым прыкладам актыўнай работы Беларускага саюза музычных дзеячаў па прапагандзе музычнага выканаўчага мастацтва за межамі Беларусі служыць удзел нашых выканаўцаў у разнастайных конкурсах у краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Сярод іх — конкурсы выканаўцаў у ФРГ, Італіі, Швейцарыі, Англіі, Францыі, Іспаніі.

Асобна неабходна адзначыць дзейнасць БСМД па вывадзе на міжнародную авансцэну беларускай цымбальнай школы, якая да гэтага ўвесь час незаслужа-

на знаходзілася ў невядомасці. З 1993 г. прадстаўнікі Беларусі з’яўляюцца правадзейнымі членамі Міжнароднай асацыяцыі цымбалістаў, штаб-кватэра якой знаходзіца ў Будапешце (13). На III Сусветным кангрэсе цымбалістаў у Брацiславе ў 1995 г. бліскуча выступіў ансамбль Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Я. Гладкова.

Значныя намаганні па наладжванню міжнародных сувязей у галіне музыкі і музыказнаўства дзеля распаўсюджання беларускай музыкі, абмену вопытам прыкладаў Беларускі саюз кампазітараў (БСК, у 1991–1995 гг. — Саюз кампазітараў Беларусі). У 1990 г. Саюз кампазітараў БССР атрымаў права наладжваць кантакты без дазволу на гэта СК СССР. Аднак на гэтым шляху першапачаткова існавала шмат цяжкасцей. Самыя значныя з іх — адсутнасць адпаведнага вопыту на гэтай ніве і недахоп матэрыяльных рэсурсаў (14). Таму пра сапраўдную прапаганду беларускай музыкі за мяжою ў 1991–1996 гг. гаварыць не даводзіцца. Аднак відавочным было пашырэнне міжнародных сувязей. Музыка беларускіх кампазітараў гучала ў Германіі і Іспаніі. Упершыню за мяжой у 1993 г. былі выпушчаны кампакт-дыскі з музыкай Я. Глебава, У. Солтана, Дз. Смольскага. Старшыня фальклорнай камісіі СКБ З. Мажэйка ў жніўні 1993 г. на XI Міжнародным з’ездзе славістаў у Браціславе была выбрана членам Міжнароднага камітэта славістаў.

**5. Беларускае выяўленчае мастацтва ў еўрапейскіх краінах**

Сярод найбольш цікавых падзей тут выдзяляецца выстаўка твораў маладых беларускіх мастакоў у г. Нітры (Славакія), якая адбылася ў 1994 г. на падставе папярэдняй дамоўленасці міністэрстваў культуры Славакіі і Беларусі**.**

Да 10-годдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Германіі прайшла вялікая дабрачынная выстаўка беларускага выяўленчага мастацтва, якая выклікала значную цікавасць у нямецкага гледача.

Беларускі саюз мастакоў наладзіў стабільныя сувязі з Франкфурцкай выставачнай кампаніяй у галіне шкла і керамікі. Дзякуючы гэтаму ў Германіі прайшлі выстаўкі работ шэрагу беларускіх мастакоў (15).

У 1995 г. вядомы беларускі мастак Віктар Шматаў па запрашэнню французскіх калег наведаў гэту краіну. Адбылося шмат сустрэч з дырэктарамі музеяў, галерэй Тулузы і іншых гарадоў Францыі. Там жа прайшла выстаўка беларускіх ікон. З французскага боку было выказана вялікае жаданне наладзіць больш цесныя сувязі (16).

Неабходна заўважыць, што беларускія мастакі самастойна наладжвалі кантакты з Еўропай. Так, у вызначаны перыяд выстаўлялі свае работы за мяжой: у Францыі — Р. Заслонаў і А. Задорын, Іспаніі — В. Ціханаў, Швецыі — З. Літвінава, Аўстрыі — Г. Гаравая, Нарвегіі — В. Альшэўскі, Галандыі — Л. Кальмаева.

**6. Выданні твораў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў**

Кідаецца ў вочы значнае скарачэнне замежных выданняў перакладаў нашых майстроў слова. Калі раней пры адборы твораў для перакладаў выдавецтвы і рэдакцыі кіраваліся прынцыпамі партыйнасці, інтарэсамі ідэалагічнай пад-

трымкі развіцця палітычных кантактаў паміж краінамі і мінімальна ўлічвалі чытацкія запыты, то ў 90-х гг. становішча карэнным чынам змянілася. На месца былой ідэалогіі прыйшоў прынцып адбору твораў літаратуры адпаведна агульначалавечым каштоўнасцям, мастацкаму густу. Новыя ўмовы запатрабавалі правядзення адпаведнай работы па рэкламе і менеджменту ў сферы міжнароднага супрацоўніцтва, актывізавалі пошук партнёраў за мяжой. Востра паўстала такая праблема, як адсутнасць сродкаў на рэалізацыю праектаў. У гэтых нялёгкіх умовах беларуская літаратура ўсё ж не знікла з поля зроку замежнага чытача.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

---

(1) Белорусская государственность и проблемы саморазвития нашего общества // Бел. думка. 1996. № 1. С. 16.
(2) Тамсама. С. 18.
(3) Рабочы фонд сакратарыята Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО.
(4) Дрозд Н. Совет Европы и Беларусь: проблемы и перспективы // Бел. думка. 1996. № 10. С. 172.
(5) Мінскевіч С. Дзе-Я?.. — У Шатландыі // Культура. 1996. 24–30 верас. С. 5.
(6) Валачковіч Т. На Алімпіяду ў Барселону // Літ. і мастацтва. 1991. 11 кастр. С. 13.
(7) Інфармбюро // Культура. 1993. 25 студз. С. 2; Компас культуры // Культура. 1995. 11–17 кастр. С. 2.
(8) С. Б. Калумб пяе па-беларуску // Літ. і мастацтва. 1996. 17 мая. С. 10.
(9) Гільдзюк Ю. Фартэпіяна: акорды дзяржаўнасці / Гут. А. Рыгорава // Культура. 1997. 21 чэрв. С. 8–9
(10) Казінец М. “Стаць незалежнымі ўнутрана — праз матчыну песню, праз песні сваёй вёскі, праз музыку, якая ствараецца тут сёння” / Гут. Л.Цімошык // Звязда. 1995. 17 студзеня. С. 4.
(11) Радзіёнаў В. Ведаюць у Еўропе… // Літ. і мастацтва. 1996. 29 сак. С. 11.
(12) Беларусіка=Albaruthenica: Кн. 7: Беларуска-нямецкае грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя, сучаснасць, перспектывы / Рэд. А. Кулажанка, А. Мальдзіс і інш. Мн., 1996. С. 114.
(13) Архіў Беларускага саюза музычных дзеячаў. Справаздача аб дзейнасці СМДБ. 1991–1995 гг.
(14) Архіў Беларускага саюза кампазітараў. Справаздача аб дзейнасці Саюза кампазітараў БССР у 1990 г.
(15) Архіў Беларускага саюза мастакоў. Стэнаграма XV з’езда мастакоў Беларусі. 19.10.1995 г.
(16) Тамсама. С. 58–59.

## З НАДРУКАВАНАГА

***Аляксандр Данілаў — пра значэнне традыцый.***

“Разглядаючы пытанне пра пераўтварэнне грамадстваў пры дапамозе дзяржаўнай улады, мы ўсё больш выразна разумеем, што *межы гэтым пераўтварэнням ставяцца духоўнымі і гістарычнымі традыцыямі канкрэтнага грамадства*”.

*Беларуская думка. 1999. № 3. С. 66.*

*Уладзімір Свяжынскі (Мінск)*

## БАЛТЫ І БАЛЦКІЯ ГАВОРКІ Ў СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

*(Заканчэнне. Пачатак у № 2–3 за 1999 г.)*

Аднак ёсць звесткі, што няшчасці яцвягаў на гэтым не закончыліся. У прыватнасці, П. Шпілеўскі ў сваіх нататках прыводзіць паданне, згодна з якім у Белавежскай пушчы, у напрамку да Гродна, быў невялікі ўзгорак, вядомы пад назвай Баторавай гары, дзе, як кажа паданне, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый (а гэта ўжо другая палова XVI ст.) паляваў на яцвягаў і страляў гэтых бедных дзікуноў, як зуброў або мядзведзяў (8). У гістарычных крыніцах назвы Палессе, Падлессе супрацьпастаўляюцца тапонімам “Літва”, “Белая Русь”, “Валынь”, “Жмудзь”, “Кіеўская зямля”, “Падняпроўе” (9). Паказальна таксама выкарыстанне некаторымі польскімі гісторыкамі-сучаснікамі, напрыклад, Длугашам і Кадлубкам, асобнай этнанімічнай формы “палясяне” для вызначэння насельніцтва гэтага рэгіёна, а таксама жыхароў Падляшша (10). Ёсць думка, што назва “палякшане” (“паляксяне”, “палясяне”), якой у XIV – пачатку XX ст. вызначаліся жыхары заходніх раёнаў Брэстчыны і сумежных зямель Падляшша, генетычна ўзыходзіць да мікраэтноніма аднаго з плямён заходнебалцкага саюза яцвягаў (11). Як піша П. Шпілеўскі, палескія пасяляне і пасялянкі адрозніваюцца сваімі касцюмамі ад іншых плямён Расіі. Асабліва арыгінальныя і мудрагелістыя ўборы замужніх жанчын. Так званая світка (верхняе адзенне) іх з цёмна-сіняга сукна мае крой дамскага паліто з таліяй, з разрэзамі ўнізе і са шматлікімі на грудзях і каля кішэняў узорамі з шарсцяных тасёмак, пераважна чырвоных і пунсовых. Рукавы шырокія, з абшлагамі, аблямаванымі каляровымі шнуркамі; каўняры стаячыя, па краях закругленыя; на нагах — казловыя чаравікі з высокімі абцасамі, іншы раз чырвонымі, і востраканцовымі насамі. Галава паляшанкі ўпрыгожваецца белым вялізным з крыллямі па баках, якія развяваюцца, пакрывалам, падобным на покрыва старажытных літоўскіх або яцвяжскіх весталак і жрыц (12).

На Усход і Паўночны ўсход ад яцвягаў размяшчалася Літва. Літва ўяўляла сабой адзін са шматлікіх балцкіх народаў побач з яцвягамі, прусамі, жамойтамі, куршамі, земгаламі, селамі і латгаламі. Р. К. Валкайтэ-Кулікаўскенэ, В. Сядоў, У. Пашута, Г. Лаўмяньскі і інш. звязваюць Літву XI ст. з археалагічнай культурай усходнелітоўскіх курганоў, арэал якой ахоплівае тэрыторыю ад сярэдняга цячэння р. Нёмана і р. Швянтойі да Svіра, Паставаў, Маладзечна. Паводле летапісных звестак XII–XIII стст. і пазнейшай тапаніміі М. Ермаловіч лакалізуе летапісную Літву каля Мінска на ўсход, Навагрудка на захад, Маладзечна на по-

ўнач і Ляхавіч на поўдзень (13). Вядома, што межы сярэдневяковых гістарычных абласцей, у тым ліку Літвы, не супадалі з адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам Вялікага Княства Літоўскага, межамі княстваў феадальнай раздробленасці і тэрыторыямі славянскіх племянных саюзаў. Аднак ёсць пэўнае супадзенне тэрыторыі сярэдневяковай Літвы з арэалам культуры штрыхаванай керамікі на познім этапе (пачатак новай эры). У такім разе ўзнікненне назвы гістарычнай вобласці Літва датуецца пачаткам новай эры. Характэрна, што размытасць межаў культуры штрыхаванай керамікі на сучаснай Гродзеншчыне аналагічная становішчу з заходнімі межамі гістарычнай Літвы (14).

Паводле В. Насевіча, М. Ермаловіч, грунтуючыся пры лакалізацыі летапіснай Літвы цалкам у межах сучаснай Беларусі на тапонімах Літва, ігнаруе адзін з асноўных законаў тапанімікі: назву Літва вёска не магла мець там, дзе ўсе населеныя пункты літоўскія, а толькі ў іншамоўным асяроддзі. Пры такім падыходзе Літва трапляла ў абшар неўрадлівых пясчаных глебаў, лясоў і балот, у тым ліку вялізнай Налібоцкай пушчы. Ядром этнасу, тым больш такога актыўнага, як старажытная літва, гэтыя землі не маглі быць проста фізічна. Галоўнае ж, што на акрэсленай М. Ермаловічам тэрыторыі, як паказваюць археалагічныя даследаванні, няма не тое што балцкіх, але практычна ніякіх археалагічных помнікаў, якія датаваліся б XIII ст. (15)

У межах арэала Літвы ці па суседству вылучаліся Аўкштайція, Дзяволтва і Нальшчаны. Паводле карты В. Насевіча, Нальшчаны займалі значную частку тэрыторыі цяперашняй Беларусі на захад ад Браслава, Лагойска, на ўсход ад ракі Вілія, Крэва (16). У Жамойці, як сведчаць старажытнарускія летапісы XII ст., меліся такія ж тэрытарыяльныя адзінкі, як у землях самастойных балцкіх народаў (Цекліс, Коршаў і інш.), што дазваляе лічыць яе насельніцтва не малым племенем, а асобным этнасам, некалі заваяваным літоўцамі. На тэрыторыі сучаснай Літвы ў XIII ст. існавалі два розныя культурныя арэалы: заходні і ўсходні. Першы, які амаль супадаў з тэрыторыяй Жамойцкай зямлі больш позніх часоў, вызначаецца выключна грунтовымі пахаваннямі без курганных насыпаў. Другі ахопліваў усходнюю палавіну сучаснай Літвы і прылеглыя часткі Беларусі (да возера Нарач, Налібоцкай пушчы і правабярэжжа Нёмана ў раёне Ліды). Гэта была культура т. зв. усходнелітоўскіх курганоў — бясспрэчна балцкай паводле пахавальнага інвентару (17). Некаторыя групы жамойтаў, ратуючыся ад крыжакоў, мігрыравалі на тэрыторыю суседніх Аўкштайціі, Беларусі, Польшчы. З 1413 г. (афіцыйная дата прыняцця жамойтамі хрысціянства) да сярэдзіны XVI ст. былі паступова хрысціянізаваны літоўскімі, польскімі і беларускімі каталіцкімі місіянерамі (18). Аўкштайты — група балцкіх плямён, што жылі ў басейне ракі Нявежыс і нізоўях Віліі (Нярыс). Суседзямі іх былі на поўначы земгалы, на ўсходзе і паўночным усходзе — літва, на поўдні — яцвягі, на захадзе — жамойты. Такім чынам, тэрыторыя рассялення аўкштайтаў уключала значную частку паўночнага захаду сучаснай Беларусі (19).

Этнічная мяжа паміж Літвой і заходнімі землямі Русі, што праходзіла прыкладна па лініі Браслаў–Паставы–Смаргонь–Ліда (далей Русь межавала з яц-

вяжскім племенем дайнова), не была падобнай на сучасныя кардоны. З абодвух бакоў яе перасякалі плыні міграцыі: асобныя літоўскія сем'і сяліліся на рускіх землях, а рускія — на літоўскіх. Пазней, пасля ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага, славянская каланізацыя берагоў Віліі яшчэ больш узмоцніцца. Адначасова са славянскай каланізацыяй Літвы самі літоўцы прасоўваліся на землі панямонскіх княстваў (а магчыма, рускія князі сялілі іх там у якасці ваеннапалонных). Шэраг вёсак з назвай Літва ў вярхоўях Нёмана мае менавіта такое паходжанне. Для паходу на тэўтонаў полацкі князь Уладзімір сабраў войска з усяго свайго валадарства, а таксама ад суседніх удзельных князёў Полаччыны (20). Войска Уладзіміра полацкага, з якім ён у 1216 г. сабраўся ісці на Рыгу, напалову складалася з літоўцаў (21). Беларусізацыя груп літоўскага насельніцтва часам працягвалася да 1920–1930-х гг. У сярэдзіне XIX ст. жыхары некаторых вёсак Ашмянскага, Лідскага і Слонімскага паветаў карысталіся яшчэ літоўскай мовай (22). Валынскі летапіс паведамляе, што ў 1276 г. пад націскам крыжаносцаў у раёны Гародні, Слоніма, Камянца, Турыйска эмігравалі вялікія групы заходнебалцкіх плямёнаў борцяў і прусаў (23). У шэрагу выпадкаў літоўскае насельніцтва трапляла і на землі Усходняй Беларусі. Рэтраспектыўнае вывучэнне гісторыі адной з такіх экстэрытарыяльных груп літоўцаў, якія жылі ў воласці Абольцы сучаснага Талачынскага раёна Віцебскай вобласці, Гайне Лагойскага раёна Мінскай вобласці, зрабіў польскі вучоны Е. Ахманьскі. Цікавасць да этнічнага складу насельніцтва воласці выклікаў адзначаны Я. Длугашам гістарычны факт аб заснаванні там у 1387 г. вялікім князем Ягайлам каталіцкага касцёла (з васьмі заснаваных у Вялікім Княстве Літоўскім у той час касцёлаў толькі два былі размешчаны на землях сучаснай Беларусі і адзін з іх — у Абольцах). Грунтуючыся на гістарычных і лінгвістычных дадзеных, Е. Ахманьскі здолеў паказаць, што ў XIV ст. там сапраўды пражывала дастаткова кампактная група літоўцаў, якая ў XVI ст. была ўцягнута ў працэс асіміляцыі (24). Актыўную асіміляцыю літоўцаў, якія пражывалі ў межах асноўнага этнічнага масіву беларусаў, пацвярджаюць матэрыялы і іншых польскіх гісторыкаў-медыявістаў (25).

Паступовай славянізацыі літоўцаў садзейнічалі паходы на Полаччыну, якія яны сістэматычна ажыццяўлялі, пачынаючы з канца XII ст. У маладосці не ў адным паходзе на Русь мог удзельнічаць, як мяркуюць гісторыкі, Міндоўг. У набегах ён прыглядаўся да жыцця суседзяў, грамадскі лад якіх знаходзіўся на больш высокім узроўні. Магчыма, тады ў яго з'явіліся нейкія асабістыя сувязі з князямі і баярамі суседніх рускіх княстваў (26). Як піша У. Ігнатоўскі, "прыходзячы ў Полаччыну і ўмешваючыся ў яе хатнія справы, літвіны яшчэ лепш і шчыльней маглі падысці і звыкнуць да арганізацыі і культуры, якую бачылі ў Полаччыне" (27).

У Пазнанскім спісе (Рачынскага) "Летописца Великого княжества Литовского" неаднаразова звяртаецца ўвага на такі сродак умацавання ўлады літоўскіх князёў на Русі, як шлюбныя сувязі з прадстаўніцамі мясцовых княжацкіх родаў. Адзначаюцца таксама факты прыняцця князямі праваслаўя і "науки языка руского", гэта значыць беларускай мовы. Першымі прынялі праваслаўную веру, як вя-

дома, Міндоўг і яго сын Войшалк пасля ўцёку у 1246 г. з летапіснай Літвы ў Навагародак. Вось чаму і нашчадкі Скаламонта былі носьбітамі славянскіх імён Фёдар, Міхаіл, Юрый, Аляксандр, Патрыкей, Андрэй, Дзмітрый, Уладзімір, Канстанцін, Сямён, Лазар, Васіль, Іван, Раман, Ян, Леў, а сын Альгерда — Андрэй полацкі (28). Значным штуршком славянізацыі літоўскіх князёў было пашырэнне межаў Вялікага Княства Літоўскага, у якім пераважаў, як вядома, славянскі (усходнеславянскі — беларускі і ўкраінскі) этнас. Як вядома, славянская этнічная тэрыторыя перавышала ўласна літоўскую, на думку П'етры Дзіні, у 15 разоў (29). Становячыся на чале пераважна славянскага княства або асобных яго рэгіёнаў (пры жыцці Гедыміна яго сыны атрымалі ў спадчыну: Манівід — Кернаў і Слонім; Карыят — астатнюю частку Чорнай Русі з Новагародкам; Альгерд, князь віцебскі, — Крэва і землі па Бярэзіне; Кейстут — Трокі, Гарадзенскую і Берасцейскую землі; Вільню з наваколлем атрымаў малодшы сын Яўнут). Яны міжволі вымушаны былі ўспрыняць старабеларускую мову, веру і культуру. Далейшы працэс утварэння Вялікага Княства Літоўскага, у якім значным кансалідуючым сродкам былі старабеларуская і стараўкраінская мовы і хрысціянская рэлігія, выглядаў наступным чынам: пасля забойства Траняты сын Міндоўга Войшалк падначаліў сабе Нальшчаны, Дзяволтву, аб'яднаў Новагародскую, Пінскую, Полацкую і Віцебскую землі. У час княжання Віценя да ВКЛ было далучана Полацкае княства (1307). Пры Гедыміне ў склад ВКЛ ўвайшлі Віцебская, Берасцейская, Турава-Пінская землі, Менскае княства, пры Альгердзе (1345–1377) — беларускае Падняпроўе, Кіеўская зямля, Мазырская і Брагінская воласці, Чарнігава-Северская, Падольская і Валынская землі, Смаленскае княства.

У выніку, калі яшчэ ў першай палове XIV ст., паводле карты В. Насевіча, існавалі асобныя літоўскія княствы — Нальшчаны, Дзяволтва і Упіта (30), то ў працэсе далейшай кансалідацыі літоўскага народа ў ВКЛ на месцы гэтых княстваў ужо ў другой палове XIV ст. з'яўляецца адзіная Літва (побач з Жамойцю), якая ператварылася ў аднайменную гістарычную вобласць, поліэтнічную, са значнай доляй іншаэтнічнага (у прыватнасці, літоўскага) насельніцтва (31). На месцы ж Дзяволтвы, Нальшчанаў, Упіты па аналогіі з Жамойцю (г. зн. Ніжняй) узнікла гістарычная вобласць этнічнай Літвы Аўкштайція (Верхняя), значная частка якой знаходзілася ў межах цяперашняй Беларусі (32).

Размежаванне літоўскага і славянскага арэалаў у сілу складанай моўнай сітуацыі ў дадзенай вобласці аказваецца даволі цяжкай задачай: "Усходняя мяжа тэрыторыі літоўскай мовы вельмі няясная", піша З. Зінкявічус (33). Уздоўж усёй Літвы і Беларусі, ад паўночнага ўсходу да паўднёвага захаду цягнецца ланцужок астраўных літоўскіх гаворак, акружаных цяпер беларускім асяроддзем (34). У прыватнасці, дыялекталагічныя экспедыцыі Інстытута літоўскай мовы і літаратуры 1956 і 1958 гг. засведчылі прысутнасць літоўскай мовы прыкладна ў 50 вёсках Браслаўскага і Відзаўскага раёнаў Віцебскай вобласці, сканцэнтраваных галоўным чынам каля мястэчка Опса. Літоўская мова захоўваецца і ў Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці (у вёсках наваколля Лынтупаў, Камаяў, Свіры на мяжы з Гродзенскай вобласцю). На Гродзеншчыне — у Гервятах і яшчэ дзесятку вёсак

(Астравецкі раён), Лаздунах і некалькіх суседніх вёсках (Іўеўскі раён), Рамашканцах, Дайнаве, Бялюнцах і інш. вёсках, што прымыкаюць да Дзевянішкеса, у ваколіцах Радуні — у вёсках Жырмуны, Бастуны, Пеляса, Забалацце і інш., ад Радуні аж да Ліды цягнецца кампактная паласа вёсак, якія захоўваюць літоўскую гаворку (Воранаўскі раён), у Дзятлаве (Зяцела), у вёсках Засецце, Пагіры, Гожа і Прывалкі (35). Раней гэты арэал быў большы. Пэўны ўдзел у фарміраванні моўнай сітуацыі ў старажытнасці на Беларусі прымалі і латышскія гаворкі. Так, на тэрыторыі, дзе жылі латгалы, знаходзіўся старажытны горад Герцыке, дзе з латгаламі суіснавалі і групы ўсходнеславянскага насельніцтва. Аб гэтым сведчыць факт, што на гарадзішчы Герцыке пры раскопках знойдзены тыповыя балтыйскія і славянскія рэчы (36). Генрых Латвійскі першы згадвае ў сваёй “Хроніцы Лівоніі” Герцыке, указваючы пры гэтым, што ў горадзе было некалькі праваслаўных цэркваў (37). Паколькі тэрмін латгалы захаваўся ў назвах некалькіх вёсак на Віцебшчыне (напрыклад, Латыгалічы ў Лепельскім раёне), а этнонімы ў якасці тапонімаў маглі ўжывацца, як указвалася вышэй, толькі ў іншамоўным асяроддзі, то можна меркаваць, што ў канцы I – пачатку II тысячагоддзя н. э. латгалы жылі ўперамешку са славянамі на тэрыторыі цяперашняй паўночна-ўсходняй Беларусі (38). Як піша Т. Хіерн, латгалы жылі ўперамешку са славянамі і былі славянізаваны (39). Такім чынам, на тэрыторыі Беларусі, пачынаючы з глыбокай старажытнасці (III–II тысячагоддзі да н. э.) пражывалі продкі цэлага шэрагу балцкіх народаў — яцвягі (дайновы, судовы, паляксены), літоўцы (аўкштайты, жамойты), прусы, латышы (латгалы). Адпаведна былі пашыраны ў большай ступені гаворкі яцвягаў, літоўцаў (аўкштайтаў), у меншай — прусаў, жамойтаў, латгалаў. Неаднолькавасць пашырэння гэтых гаворак тлумачылася рознай ступенню рассялення таго або іншага балцкага племені ў межах Беларусі.

У працах З. Зінкявічуса апісаны цікавы дакумент, які ўяўляе сабой сучасную копію з невялікага двухмоўнага слоўніка, пераплеценага з лацінскім малітоўнікам (40). Польскім словам тут адпавядаюць словы нейкіх “gwar pogańskich z Narewu”. Паколькі балтыйскі характар большасці лексем, як было ўстаноўлена, з’яўляецца несумненным (41), на падставе аналізу матэрыялаў слоўніка вучонымі была рэканстуявана “яцвяжская” мова, якая, як аказалася, займае прамежкавае становішча паміж заходне- і ўсходнебалтыйскімі мовамі (42).

Але яшчэ раней асноўныя асаблівасці мовы яцвягаў на падставе аналізу рэліктавых тапонімаў балцкага паходжання ў межах былой тэрыторыі пражывання яцвяжскіх плямён (гл. вышэй) былі выяўлены Я. Атрэмбскім. Вось яны: а) дыфтонг *ei* адпаведна літоўскаму *ie* (leipa – liepa ‘ліпа’); б) *s, z* адпаведна літ. *š, ž* (zuvys – žuvys ‘рыба’); в) *c, dz* адпаведна літ. *č, dž*; г) *t’, d’* адпаведна літ. *k, g* (jautēliai – jaukeliai ‘бычкі’, dalazinis – geležinis ‘жалезны’); д) лексічныя адрозненні, адпаведна: kirsna – juodas ‘чорны’, gaila – baltas ‘белы’, dulgas – ilgas ‘доўгі’ (43).

У поле зроку Я. Атрэмбскага не трапіў, на жаль, цікавы ў разглядаемых адносінах тапонім Зэльва. Яшчэ В. Жучкевіч меркаваў, што ён мае яцвяжкае паходжанне (44). На тэрыторыі Прусіі, паводле карты З. Зінкявічуса, значыўся тапонім Želva (Жалва) (45). Паколькі, паводле Я. Атрэмбскага, літоўскім *ž š* у

яцвяжскай мове адпавядалі *z, s* (46), то тапонім Зэльва трэба разглядаць як яцвяжскі адпаведнік літоўскаму želva ‘рыжык’. На карысць гэтага сведчыць і выступленне адпаведнікаў у ролі тапонімаў.

Атрыманыя дадзеныя дазволілі Я. Атрэмбскаму зрабіць важны вывад аб тым, што мова яцвягаў як член балтыйскай моўнай групы бліжэй да прускай, чым да літоўскай і латышскай. З другога боку, мове яцвягаў уласцівы некаторыя важныя асаблівасці, характэрныя для славянскіх моваў: наяўнасць *s, z* (як у прускай) замест літоўскіх *š, ž* і *c, dz,* з *tj, dj* (як у польскай), ператварэнне палатальных зычных ‘*t, d’* у *k’, g’* (і адваротная замена *k’g’* у *t; d’*, як ва ўсходне- і паўднёваславянскіх мовах). Па наяўных дадзеных лексіка яцвяжскай мовы судакранаецца са славянскай.

Зыходзячы з усяго гэтага, можна меркаваць, што мова яцвягаў з’яўляецца пераходнай паміж балтыйскімі і славянскімі мовамі, ва ўсялякім разе яна з’яўляецца такой у нашмат большай ступені, чым мова пруская, якой, як вядома, таксама не чужыя асаблівасці, характэрныя для славянскіх моваў.

Паводле лінгвагеаграфічнай карты З. Зінкявічуса, астраўныя гаворкі літоўскай мовы на тэрыторыі Беларусі належаць да наступных груп, асноўны масіў якіх знаходзіцца на тэрыторыі Літвы: гаворкі Радуні, Пелясы і Рамашканцаў — да паўднёвай групы аўкштайцкіх гаворак, Дзятлава — заходнеаўкштайцкіх, Опсы, Гервят, Лаздунаў — усходнеаўкштайцкіх (47).

У Іпацьеўскім летапісе пад 1276 г. ёсць запіс: “Придоша проуси ко Троиденеви и своеи земли неволею передъ немци, он же прия е к собе и посади часть и(х) в Городне а часть ихъ посади во Вслониме”. Паколькі ў свой час летапісцы не заўсёды выразна адрознівалі яцвягаў і прусаў, па свайму месцу пражывання яцвягі былі нібы працягам прусаў, па мове ж яны ўяўлялі сабой нібы разнавіднасць прускіх родзічаў. Апошнімі нашчадкамі яцвягаў, пасаджаных, па верагоднаму сведчанню летапісу, у Слоніме, з’яўляюцца менавіта літоўцы, якія яшчэ пражываюць у ваколіцах Дзятлава (Зяцелы), а менавіта ў вёсцы Засецце. Доказам, відаць, служыць ужываемае ў дыялекце гэтых літоўцаў слова zāsis: літар. žąsis ‘гусь’. Яцвягі засвоілі літоўскую мову, але толькі з вялікай цяжкасцю пачалі вымаўляць літоўскі зычныя *š, ž* замест *s, z* сваёй мовы. У дыялекце вёскі Засецце маюцца і іншыя словы з *z* замест чакаемага *ž*: bazniča, літар. bažnyčia ‘касцёл’, zvėris замест літар. žvėris ‘звер’ (48).

---

(8) Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С. 40.

(9) Акты Литовско-Русского государства. Ч. 2. С. 456, 466, 502; Литовская метрика: Книга публичных дел. Ч. 9. С. 59–60; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 337, 338.

(10) Этнаграфія беларусаў. Мн., 1985. С. 77.

(11) Nalepa J. Polekszanie (Polexiani), plemię jaćwieskie u północnowschodnich granic Polski // Rocznik Białostocki. Białystok, 1968. T. 7. S. 3–74.

(12) Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С. 39.

(13) Ермаловіч М. І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991. 2-е выд. С. 43.

(14) Зайкоўскі Э. Літва // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1997. Т. 4. С. 380–381.

(15) Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 20.
(16) Вялікае княства Літоўскае // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т. 2. С. 388.
(17) Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. С. 19.
(18) Чаквін І. У. Жэмайты // Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. Мн., 1993. С. 256.
(19) Зваруга Я. Г. Аўкштайты // Тамсама. С. 63.
(20) Генрих Латвийский: Хроника Ливонии. М., 1938. С. 82.
(21) Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. С. 55.
(22) Карашчанка І. В. Літоўцы // Этнаграфія Беларусі: Энцыкл. Мн., 1989. С. 292–293.
(23) ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. С. 871, 874, 877.
(24) Ochmański J. Ludność litewska we włości Obolce na Białorusi Wschodniej w XIV–XVI wieku // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1967. T. 5. S. 147–157.
(25) Łowmianski H. Uwagi w sprawie podłoża społecznego i gospodarczego do unii Jagiellońskiej // Księga pamiątkowa ku uczczeniu czterechsetnej rocznicy wydania pierwszego Statutu Litewskiego. Wilno, 1934. S. 66.
(26) Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. С. 29.
(27) Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. С. 68.
(28) Насевіч В. Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх родаў 12–18 стагоддзяў. Мн., 1993. Табл. 2.
(29) Дзіні П. Роля беларускіх земляў у Вялікім княстве Літоўскім // Ад Полацка і Нясвіжа да Падуі і Венецыі. Мн., 1994. С. 49.
(30) Вялікае княства Літоўскае // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 388 (карта).
(31) Łowmiański H. Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1. S. 17–19; T. 2. S. 105–109.
(32) Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Ч. 1. С. 65 (карта).
(33) Zinkevičius Z. Lietuvių dialektologija. Vilnius, 1966. P. 24.
(34) Тамсама. С. 25–27.
(35) Гл.: Судник Т. М. Диалекты литовско-славянского пограничья. М., 1975. Там жа і літаратура.
(36) Balodis F. Jersika. Rīga, 1940.
(37) Генрих Латвийский: Хроника Ливонии.
(38) Мугуревич Э. С. Восточная Латвия и соседние земли в X–XIII вв. Рига, 1965.
(39) Hiärn T. Ehst-, Lyf- und Lettländische Geschichte // Monumenta Livoniae Antiquae. Rīga; Leipzig, 1835—1853. T. 1–5.
(40) Зинкявичюс З. Польско-ятвяжский словарик? // Балто-славянские исследования 1983. М., 1984. С. 3–29; Zinkevičius Z. Lenkų-jotvingių žodinėlis? // Baltistica. 1985. XX (1). P. 61–82; 1985. XX (2). P. 184–193.
(41) Орёл В. Э., Хелимский Е. А. Наблюдения над балтийским языком польско-“ятвяжского” словарика // Балто-славянские исследования 1985. М., 1987. С. 121.
(42) Зинкявичюс З. Польско-ятвяжский словарик? // Балто-славянские исследования 1983. С. 11; Toporow V. N. Lit. yra, lett. ir und ihre Vergangenheit im Lichte der Linguistischen Typologie // Zeitschrirt für Slawistik, 1978. Bd 23. H. 5.
(43) Отрембский Я.С. Язык ятвягов // Вопросы славянского языкознания. 1961. № 5. С. 3–8.
(44) Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь. С. 140.
(45) Zinkevičius Zigmas. Lietuvių kalbos istorija. Vilnius, 1988. T. 3. P. 17.
(46) Отрембский Я.С. Язык ятвягов. С. 3.
(47) Zinkevičius Z. Lietuvių dialektologija. Vilnius, 1966. Žemelapis I.
(48) Отрембский Я. С. Язык ятвягов. С. 7–8.

## У ДЗЕНЬ СВЯТОГА ПАТРЫКА

Святы Патрык — нацыянальны сімвал Ірландыі. З яго імем звязана прыняцце хрысціянства ў гэтай астраўной краіне, якая многім (найперш — складаным шляхам да нацыянальнай незалежнасці і двухмоўем) нагадвае Беларусь. 17 сакавіка — дзень св. Патрыка — ірландцы адзначаюць набажэнствамі, карнавальнымі шэсцямі.



*Старадаўні крыж — сімвал Ірландыі*

Менавіта ў дзень св. Патрыка сябры Таварыства "Беларусь – Ірландыя" вырашылі правесці семінар "Беларуска-ірландскія гістарычна-культурныя сувязі". У ім прыняла ўдзел прадстаўнічая (13 асоб, у тым ліку музычны ансамбль) ірландская дэлегацыя. Прысутных вітаў прэзідэнт таварыства доктар тэхнічных навук, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Ён падзякаваў гасцям за гуманітарную дапамогу, якую яны аказваюць беларускім дзецям з Чарнобыльскай зоны, беручы іх летам на аздараўленне і прывозячы медыкаменты.

У навуковай частцы семінара ўдзельнічалі кандыдаты філалагічных навук Вячаслаў Чамярыцкі, Алесь Жлутка, Галіна Адамовіч, Лідзія Савік, супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Станіслаў Рудовіч, галоўны эканаміст Міністэрства эканомікі Беларусі Яраслаў Міцкевіч. Яны гаварылі пра першае ўпамінанне Белай Русі ірландскім манахам у XIII ст., пра сувязі ірландскага руху за незалежнасць і беларускага Адраджэння пачатку XX ст., пра беларуска-ірландскія літаратурныя сувязі і эканамічныя кантакты. З ірландскага боку на семінары выступілі Лім О'Хара і Джым О'Браен.

А затым прысутныя накіраваліся ў парк імя М. Горкага, дзе адбыліся карнавальнае шэсце і канцэрт. Вечарам таго ж дня у Доме дружбы былі наладжаны канцэрт і сяброўскі прыём.

Матэрыялы семінара з наступнага нумара пачнуць друкавацца ў "Кантактах і дыялогах".

***Марына Ясневіч**, член праўлення Таварыства "Беларусь – Ірландыя"*

## УБАЧЫЦЬ НЕЗВЫЧАЙНАЕ Ў ЗВЫЧАЙНЫМ ДАДЗЕНА НЕ КОЖНАМУ…

Колькі ўжо разоў за сваё жыццё пераконваўся: праўду кажуць у народзе — зямляк земляка здалёк пачуе. Так адбылося ў нас з мастаком-пейзажыстам Уладзімірам Голубам, калі я ўпершыню патрапіў на выстаўку яго карцін у Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Нечым родным, да болю знаёмым павеяла ад пейзажаў, выкананых у асноўным светлымі танамі. І сапраўды, Уладзімір гадаваўся ў Брагінскім раёне, а я — у Рэчыцкім. Лічы суседзі. Мо таму і гаворка адразу перакінулася на ўспаміны аб родных мясцінах, па якіх Уладзімір сумуе шмат гадоў — колькі ўжо часу мастак жыве ў Мінску.

Потым была выстаўка "Мой родны кут" у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, пра якую адзін з наведвальнікаў напісаў у кнізе водгукаў: "Убачыць незвычайнае ў звычайным дадзена не кожнаму". Запомнілася выстаўка "Ведай свой край", якая экспанавалася спачатку ў Беларускім дзіцячым фондзе, а потым "паехала" па дзіцячых сірочых установах сталіцы. Адразу ж пазнаваліся ўбачаныя мастакоўскім вокам, але такія вядомыя і знаёмыя мінчукам архітэктурныя помнікі Мінска, наваколле Камсамольскага возера і вадасховішча Драздзы. А яшчэ — Троіцкі Залатагорскі касцёл св. Роха, кафедральны Святадухаўскі сабор, царква Марыі Магдаліны... На адкрыцці адной з выставак Уладзімір Голуб сказаў: "Імкнуся ў звычайных рэчах бачыць нешта большае, чым яны прадстаўляюць. Для мяне вельмі важна, каб мае карціны неслі ў сабе духоўнасць, бо сапраўдная творчасць — шлях да Бога, а Бог — гэта любоў..."



*Уладзімір Голуб. "Усмешка вясны"*

Цяпер Уладзімір Голуб — мастак-афарміцель у санаторыі-прафілакторыі "Мір" на Вячы. Там адпачываюць і лечацца дзеці з Чарнобыльскай зоны. Паколькі і сам мастак родам адтуль, дык і адносіны ў яго да гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак асаблівыя. Уладзімір дэманструе дзецям слайды, праводзіць гутаркі па гісторыі выяўленчага мастацтва, расказвае пра вялікіх мастакоў, сярод якіх і самы любімы ім — Сальвадор Далі.

Але не толькі маляваннем займаўся Уладзімір Голуб. Малым ён вельмі любіў ляпіць з пластыліну, спрабаваў і разьбу па дрэве. Апошняе захапленне, як і галоўнае — жывапіс, засталося на ўсё жыццё. У яго і станкі для апрацоўкі драўляных вырабаў — уласнай канструкцыі.

Сёння карціны Уладзіміра Голуба знаходзяцца ў прыватных калекцыях аматараў жывапісу ў Злучаных Штатах Амерыкі, Германіі, Італіі, Францыі.

На пачатку гэтага года ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адкрылася і пэўны час экспанавалася выстаўка жывапісу Уладзіміра Голуба “Ведай свой край”. Адзін твор з гэтай выстаўкі вы бачыце на рэпрадукцыі.

***Валерый Шыханцоў***

## СПЯВАЕ “МАЛАНКА” З БЕЛЬСКА ПАДЛЯШСКАГА




Гурт беларускай народнай песні “Маланка” — адзін з самых папулярных беларускіх калектываў Беласточчыны. Існуе ён з 1990 г. пры Доме культуры ў Бельску-Падляшскім. Склад калектыву — 16 асоб, у тым ліку 11-ціасабовая вакальная група і 5-ціасабовая інструментальная група.

*Ансамбль “Маланка” выступае на апошнім Фестывалі беларускай песні ў Беластоку*

“Маланка” ўзнікла ў студзені 1990 г. як вакальнае трыо, у якім спявалі ранейшыя ўдзельнікі ансамбля “Дзявочыя ноткі” з Белліцэя ў Бельску-Падляшскім. Дэбют трыо адбыўся ў лютым 1990 г. на раённым аглядзе беларускай песні ў Бельску-Падляшскім, а на цэнтральных элімінацыях гурт стаў лаўрэатам.

Склад калектыву паступова пашыраўся. Да “Маланкі” далучыліся іншыя жанчыны і мужчыны. 14 красавіка 1991 г. у Бельскім Доме культуры адбыўся першы поўны гадзінны канцэрт “Маланкі”. Тады выступіў у 13-ціасабовым складзе.

Першая замежная паездка “Маланкі” — яе выступленне на Фестывалі харавой музыкі ў Гродне ў красавіку 1991 г З таго часу “Маланка” дала шмат канцэртаў па ўсёй Беласточчыне. У 1993 г. ансамбль прыняў удзел у святе Еўропы ў Сан-Лямбэр дзю Лятэ ў Францыі, даўшы там тры канцэрты. У лістападзе 1993 г. пабываў у Германіі ў мясцовасці Бад-Эсэн. Другі раз “Маланка” наведала Бад-Эсэн у снежні 1995 г. У тым жа годзе гурт удзельнчаў у І Міжнародным фестывалі фальклору ў Пінску на Беларусі, рэпрэзентаваў беларускую меншасць на аглядах калектываў нацыянальных і этнічных меншасцей у Гданьску, Варшаве, Дабрадзеню, Пуньску. Гурт удзельнічаў у XXXIII Тыдні культуры Бэскідаў, даўшы канцэрты ў Шчырку, Вісле і Асвенціме, у Фестывалі музыкі Карпатаў “На пагранічча” (Санок, 1996). “Маланка” — шматразовы лаўрэат Фестывалю беларускай песні ў Беластоку, а таксама ўдзельнік шматлікіх беларускіх імпрэзаў на Беласточчыне.

***Сяргей Лукашук**, мастацкі кіраўнік калектыву*

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ДАВЕДНІКА

### АБЛАЖЭЙ АЛЕГ



***Аблажэй Алег*** *(н. 6.05.1954, в. Лезнявічы Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.), мастак.*

У 1977 г. А. Аблажэй закончыў Віцебскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці чарчэнне і маляванне. Потым — служба ў войску. Пасля арміі ў 1985 г. закончыў Вільнюскі дзяржаўны мастацкі інстытут (цяпер акадэмія) па спецыяльнасці графіка.

Сёння А. Аблажэй шырока вядомы як мастак, займаецца жывапісам, акварэллю, ілюструе кнігі. У яго афармленні выйшлі ў Беларусі творы В. Жуковіча “Гуканне вясны”, Д. Бічэль-Загнетавай “Гараднічанка”, у Маскве — “Шведскія казкі” Э. Хэмінгуэя, “Сербская паэзія”, у Вільнюсе — “Казка пра Султана” і інш. А нядаўна ў польскім выдавецтве “Эліпса” ўбачыла свет і яго ўласная кніга на польскай мове “Сем казак пра каралеўнаў”, ім самім жа і аформленая, — яна хутка стала бібліяграфічнай рэдкасцю. У 1984–1986 гг. у Літве выдадзена серыя канвертаў з партрэтамі літоўскіх дзеячаў, афармленая А. Аблажэем, а таксама серыя паштовак. Ён — мастацкі рэдактар газеты “Рунь”, піша для яе сатырычныя фельетоны, мастацкі афарміцель дзіцячага часопіса “Лола”, малюе таксама партрэты вядомых дзеячаў, краявіды. Любімая яго тэма — жанчына ў фантастычных строях і проста жанчына. Яго працы выстаўляліся неаднаразова ў Літве, Польшчы, Германіі, Эстоніі, Латвіі, Беларусі.

У Літве Алега Аблажэя добра ведаюць не толькі як мастака, але і як грамадскага дзеяча. Ён прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці “Саюдзіса”, супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі Вільнюса. Член рады Таварыства беларускай культуры, суполкі мастакоў краін Балтыі “Маю гонар”. Узнагароджаны літоўскім медалём “За падзеі 13-га студзеня”.

***Леакадзія Мілаш*** *(Вільнюс)*

## БАРТАШЭВІЧ АЛЬБЕРТ

***Барташэвіч Альберт*** *(н. 2.08.1942, в. Раёўшчына Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.), мовазнаўца, доктар габілітаваны (1972), прафесар (1986), ганаровы доктар Калінінградскага універсітэта (1997).*

А. Барташэвіч нарадзіўся ў беларускай вёсцы. Вучыўся ў Вроцлаўскім універсітэце, пасля заканчэння якога (1964) быў старшым асістэнтам у Вышэйшай педагагічнай школе ў Аполі (1964–1968). Да 1973 г. — ад'юнкт у Познаньскім універсітэце імя Адама Міцкевіча. Быў прызначаны намеснікам дэкана філалагічнага факультэта Шлёнскага універсітэта (Катавіцэ). З 1974 г. працаваў у Варшаўскім універсітэце: кіраваў аддзелам рускай мовы (1974–1992). Намеснік дэкана факультэта русістыкі і славістыкі (1975–1977), дэкан факультэта русістыкі і прыкладной лінгвістыкі (1977–1987) таго ж універсітэта. У 1987 г. А. Барташэвіч стаў дырэктарам Інстытута русістыкі Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне, з 1992 г. узначальваў кафедру ўсходняга славяназнаўства, а з 1993 г. — кафедру славянскага мовазнаўства. З 1994 г. узначальвае там Інстытут усходняга славяназнаўства. У 1994–1996 гг. — дэкан факультэта гуманістыкі. З 1995 г. у Познаньскім універсітэце імя Адама Міцкевіча кіруе секцыяй рускай мовы.



А. Барташэвіч займаецца навуковымі даследаваннямі ў галіне ўсходнеславянскага мовазнаўства, польска-ўсходнеславянскай кампаратывістыкі, гісторыі рускай мовы, анамастыкі, лексікалогіі і перакладазнаўства. Ім напісаны каля 120 навуковых прац, у тым ліку "Гісторыя суфіксальнай адыменнай дэрывацыі назоўнікаў у рускай мове" (1972), "Пытанні эвалюцыі сучаснай рускай мовы" (1986), "Слоўнік a tergo сучаснай беларускай мовы" (1988–1989. Т. 1–4), "Рускае словаўтварэнне для палякаў" (1990), "Беларуска-польскі і польска-беларускі слоўнік" (1996). Аўтар падручнікаў "Гісторыя рускай літаратурнай мовы" (1979), "Нарыс гістарычнай граматыкі рускай мовы" (1988), кнігі "Індэкс a tergo да слоўніка мовы Пушкіна" (1985).

А. Барташэвіч — член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, ганаровы сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Узнагароджаны медалём імя Пушкіна, ордэнам Дружбы, залатым Крыжам заслугі, Кавалерскім крыжам і іншымі адзнакамі і ўзнагародамі.

***Ірына Тамільчык***

## ЛУБА ВІТАЛЬ

***Луба Віталь Канстанцінавіч*** *(н. 15.12.1947, в. Чорная Вялікая Сямятыцкага пав. Беластоцкага ваяв., Польшча), літаратар, журналіст.*

В. Луба ў 1972–1977 гг. вучыўся на завочным аддзяленні кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. У 1966–1974 гг. працаваў настаўнікам у вясковай школе, у 1974–1985 гг. — на партыйнай рабоце. У 1985 г. перайшоў на работу ў Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку і там займаў пасаду (да 1988 г.) сакратара Галоўнага праўлення БГКТ. З 1988 г. — у "Ніве". У 1988–1992 гг. — яе галоўны рэдактар, у 1992–1997 гг. — адказны сакратар, а з 1998 г. — зноў галоўны рэдактар.



Як журналіст В. Луба выступае ў беларускім і польскім друку з артыкуламі па пытаннях грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. Даследуе польскую палітыку ў дачыненні да ўсходніх дзяржаў у апошнім дзесяцігоддзі (Przegląd Wschodni. 1997. Nr 4) і інш.

***Ірына Тамільчык***

## СУХІ ПАВЕЛ

***Сухі Павел Восіпавіч*** *(22.07(10.08).1895, в. Глыбоцкае Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Гомельскага р-на Гомельскай вобл. – 15.09.1975, Масква), авіяканструктар. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1968) і Дзяржаўнай прэміі СССР (1943), двойчы Герой Сацыялістычнай Працы (1957, 1965), доктар тэхнічных навук (1940).*

Нарадзіўся П.Сухі ў сям'і настаўніка. У 1905 г. паступіў вучыцца ў Гомельскую гімназію, якую скончыў у 1914 г. з сярэбраным медалём. У тым жа годзе паступіў на матэматычны факультэт Маскоўскага універсітэта, пасля заканчэння першага курса перайшоў у Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча. З 1916 г. П.Сухі ў арміі, заканчвае школу прапаршчыкаў, прымае ўдзел ў Першай сусветнай вайне. У 1918–1920 гг. працуе выкладчыкам матэматыкі ў школе ў г. Лунінец Брэсцкай вобл., чыгуначнай школе ў Гомелі. Пасля аднаўлення дзейнасці вышэйшых навучальных устаноў Расіі прадоўжыў вучобу ў Маскоўскім вышэйшым тэхнічным вучылішчы (1920), якое скончыў у 1925 г. З 1925 г. працаваў інжынерам-канструктарам у Цэнтральным аэрагідрадынамічным інстытуце імя М. Жукоўскага (ЦАГІ), з 1936 г. — намеснікам начальніка канструктарскага бюро завода доследных канструкцый ЦАГІ, а з 1937 г. — начальнікам канструктарскага бюро завода. У 1939 г. прызначаны галоўным кан-

структарам і дырэктарам доследнага завода. З 1956 г. — галоўны канструктар авіяцыйнай тэхнікі.

П. Сухі — аўтар больш 50 арыгінальных канструкцый ваенных самалётаў, з якіх 30 пабудаваны і выпрабаваны. Прымаў удзел у праектаванні самалётаў АНТ-3, АНТ-4, АНТ-6, АНТ-9, АНТ-10. Пад кіраўніцтвам А. Тупалева распрацаваў знішчальнік І-4 (АНТ-5), выпрабаванні і серыйная вытворчасць якога былі пачаты ў 1927 г., і І-14 (АНТ-31) (1932—1934). Вядучы канструктар і кіраўнік аддзела па распрацоўцы самалётаў РД (АНТ-25) і “Радзіма” (АНТ-37). Стварыў шматфункцыянальны баявы самалёт Су-2, браніраваны штурмавік Су-6, якія выкарыстоўваліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Пад яго кіраўніцтвам у 1940–1941 гг. створаны доследныя знішчальнікі Су-1, Су-3 і інш. са звычайнымі і камбінаванымі сілавымі ўстаноўкамі з высокімі лётна-тэхнічнымі характарыстыкамі, у 1942–1943 гг. — браніраваны штурмавік Су-6. Адзін са стваральнікаў звышгукавой рэактыўнай авіяцыі. Распрацаваў рэактыўныя самалёты Су-9 з двума рэактыўнымі рухавікамі, знішчальнік-перахватчык Су-15 і інш. з турбарэактыўнымі рухавікамі, звышгукавыя знішчальнікі з стралападобным і трохвугольным крылом. Пад яго кіраўніцтвам быў распрацаваны першы знішчальнік-бамбардзіроўшчык Су-7Б. Прымаў удзел ў распрацоўцы і кіраваў лётнымі выпрабаваннямі бамбардзіроўшчыка Ту-14. На самалётах канструкцыі П. Сухога неаднаразова ўстанаўліваліся рэкорды па працягласці, хуткасці і вышыні палёту. У 1934 г. на самалёце РД (АНТ-25) быў ўстаноўлены сусветны рэкорд па працягласці беспасадачнага палёту, а ў 1936 г. зроблены беспасадачны пералёт Масква – Далёкі Усход (экіпаж пад кіраўніцтвам В. Чкалава). На самалётах Т-431 і Т-405 устаноўлены два сусветныя рэкорды па вышыні (1959, 1962) і два рэкорды хуткасці палёту па замкнёным маршруце (1960, 1962).



П. Сухі быў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі. У 1975 г. Прэзідыум Акадэміі навук СССР за “найвыдатнейшыя дасягненні ў галіне авіяцыйнай навукі і тэхнікі” прысудзіў медаль № 1 імя А. Тупалева генеральнаму кантруктару П. Сухому (пасмяротна). Пахаваны ў Маскве, на Навадзевічых могілках. У Гомелі П.Сухому ў 1977 г. устаноўлены бронзавы бюст. Яго імя прысвоена Канструктарскаму бюро (сакавік 1977 г.), Гомельскаму дзяржаўнаму тэхнічнаму універсітэту.

***Вольга Гапоненка***

# ЮРЭВІЧ ЛЯВОН

***Юрэвіч Лявон*** *(н. 30.06.1965, Мінск), літаратуразнаўца, крытык, бібліёграф, грамадскі дзеяч.*

Маці Лявона Юрэвіча, Алена Юрэвіч, — вядомы беларускі лінгвіст. Сам ён, закончыўшы мінскую сярэднюю школу № 35, працаваў у гарадской дзіцячай бібліятэцы. У 1983 г. паступіў на філалагічны факультэт Мінскага педінстытута імя М. Горкага, які скончыў (з перапынкам на службу ў арміі) у 1990 г. Выкладаў беларускую мову ў Мінскім педінстытуце замежных моваў. У 1990 г. паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. У 1993 г. выехаў у ЗША. Працуе ў аддзеле рукапісаў Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі. Магістр філалогіі.



Лявону Юрэвічу належыць аўтарства даследаванняў "Архіўная кніга" (Нью-Йорк, 1997), "Беларуская мемуарная літаратура на эміграцыі" (Нью-Йорк, 1999), "Каментары" (Мн., 1999). Яго артыкулы друкаваліся ў зборніках "Вяртання маўклівая споведзь" (Мн., 1994), "Культура беларускага замежжа" (Мн., 1998), "Запісах БІНІМ", беларускіх энцыклапедыях, перыядычных выданнях Беларусі, ЗША, Англіі. Укладальнік, аўтар уступных артыкулаў і рэдактар выдадзеных у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва (Нью-Йорк) зборнікаў Уладзіміра Дудзіцкага (1994), Міколы Цэлеша (1995), Юркі Віцьбіча (1996), Лявона Крывічаніна (1998). Укладальнік (разам з Валянцінай Грышкевіч) бібліяграфічнага ўказальніка "Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць" (Мн., 1995). Сябар прэзідыума Рады БНР. Сурэдактар газеты "Беларус" (Нью-Йорк). Удзельнік мерапрыемстваў беларускай дыяспары ў ЗША.

***Вітаўт Кіпель*** *(Нью-Йорк)*

# ВІНШУЕМ ЮБІЛЯРАЎ

## НАШ СЯБАР ТУРОНАК: РАЗВАГІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

У нас — аніякіх манапольных прэтэнзій на сяброўства. Ведаем, ён многім свой — гэты сімпатычны, з прытоенай усмешкай на вуснах, з праніклівым, вастраватым паглядам вачэй, з русявай стрыжкай "пад ёршыка". А ўвогуле — чалавек дзіўнае, неадольнае прыцягальнасці, наш Беларусін у польскай сталіцы.

Словам, па-руску кажучы, “человек неотразимый”. Такім ласне памятаем яго з першых нашых знаёмстваў — гадоў за дваццаць таму на вуліцы Тамка ў Варшаве і на вуліцы Чарвякова ў Мінску. Гаманілася нам даволі свабодна, раскавана, а як на першыя сустрэчы дык і вельмі шчыра, што называецца “без обиняков”. Пэўна і тэма — забранага краю трывучасць — ад пачатку прадвызначыла тую непадробленую, спавядальную атмасферу, якая скрозь спрыяе ўзаемнаму таварышаванню суродзічаў з процілеглых кропак Усходу – Захаду.

Наш варшаўскі сябар — чалавек выразна рацыяналістычнага складу, дакладнага лагічнага, стала і напружана засяроджанага над Справай, якой упарта і плённа слугуе. Пра характар і плён гэтага слугавання — Туронкавы сямідзесяцігадовы жыццяпіс, багатая бібліяграфія. “Па плёнах пазнаеце іх...” — назва адной з яго публікацый. Вельмі сімвалічная і, мяркую, не менш адэкватная для цэласнага ўспрымання творчага аблічча юбіляра, аўтара многіх кніг і артыкулаў па беларускай гісторыі і культуры.



Колькі ж нашага брата (без лірыкі нельга, аднак...) пераступала гасцінны парог светлае аднапакаёўкі на пагорыстай варшаўскай вуліцы. Як жа даляглядна хораша з дванаццатага паверха Туронкавага жытла глядзіцца неабсяжная панарама польскае сталіцы. І як смачна і востра гамоніць і мроіцца там гасцяванцам з гаспадаром пра Беларусь і Беларушчыну — пра тую ўпартую Краіну, што скрозь не хоча паміраць. Адрас варшаўскага Беларуса... Адраджэнне беларускае ведае нямала падобных адрасоў — у адной асобе, пад адным дахам: нашыя і гісторыя, і культура, і навука, і універсітэт, і энцыклапедыя, нашая царква, словам, “нашае ўсё” — з чаго наталяемся, падмацоўваем аслабелыя сілы, чэрпаем веру і надзею ў глухую пару безнадзейшчыны. Кватэра Браніслава Эпімах-Шыпілы ў Пецярбургу, пакойчык Івана Луцкевіча на віленскай Пагулянцы, “лясная хатка” Зоські Верас у ваколіцах Вільні, маскоўскі адрас Мікалая Улашчыка... Цяпер вось — варшаўская Тамка...

“Голас душы” — беларускі малітоўнік, падараваны нам Туронкам у першыя сустрэчы-развітанні. Цяпер гэтая кніжачка, сярод іншых беларускіх друкаў, павандравала далей, ажно ў Сібір, да іркуцкіх беларусаў. Магчыма, і Алесь Рудакоў, малады і порсткі зямляча з Іркуцка, калісь таксама завітае на Юркаў парог. Крэўныя галасы ў бязмежжы пазнаюцца і яднаюцца.

***Аляксей Каўка** (Масква), **Адам Мальдзіс***

# IN MEMORIAM

## НАДЗЕЯ БІТЭЛЬ-ДАБЖЫНСКАЯ

У Гданьску, 3 лютага, на 79 годзе жыцця памерла доктар эндакрыналогіі і педыятрыі Надзея Бітэль-Дабжынская, пра якую падрабязна гаварылася ў перадапошнім нумары бюлетэня. З гэтай цудоўнай жанчынай давялося мне пазнаёміцца ў пачатку 90-х гадоў. Прычынай знаёмства сталі сямейныя хваробы. Адзін тутэйшы аўтарытэт па медыцыне накіраваў мяне да яе. З той пары праблемы са здароўем, асабліва маіх дочак, вырашала Надзея Бітэль-Дабжынская. Аказалася, што пацыенты таксама сталі ёй блізкімі. Магла яна з намі пагутарыць па-свойму, г. зн. па-беларуску. Праўду кажучы, упершыню я сустрэла доктара, які знайшоў час на прыватныя размовы з пацыентамі. Пасля візіты сталі таксама прыватнымі, а пані доктар званіла, каб запрасіць на абед, проста пагаварыць. Маім дочкам заўсёды паўтарала: “Каб быць доктарам, трэба любіць людзей, той, хто не любіць людзей, не павінен быць доктарам”.



*Надзея Бітэль-Дабжынская (другая злева) на сустрэчы з землякамі ў Гданьску (1998)*

Расказвала нам, як здзяйсняліся яе дзіцячыя мары стаць лекарам. А гэта было не так проста, хаця Надзея Бітэль-Дабжынская паходзіла з багатай памешчыцкай сям’і. Яе маці, з сям’і Льва Талстога, перад Першай сусветнай вайной закончыла Пецярбургскую кансерваторыю. Бацька, Дабжынскі, закончыў агратэхнічнае і мастацкае аддзяленні. Мелі яны маёнтак за Ашмянамі. У Першую сусветную вайну падаліся ў бежанства ў Херсонскую губерню, дзе 6 лістапада 1919 г. у маёнтку Раёк, недалёка ад Адэсы, нарадзілася ў іх дачка Надзея. З бежанства не вярнуўся бацька. Маці з сынам Львом (будучым мастаком) і дачкой у 1924 г. перабраліся ў родныя мясціны. Спярша гаспадарылі ў Пярловай Горцы, каля Крэва, пасля ў Лошы каля Астраўца. У 1928–1936 гг. вучылася ў гімназіі ў Ашмянах, а пасля — на медыцынскім факультэце універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Яе медычную адукацыю перапыніла Другая сусветная вайна, а дакладней, ліквідацыя універсітэта літоўскімі ўладамі ў снежні 1939 г. Студэнты атрымалі магчымасць вучыцца далей у літоўскім універсітэце імя Вітаўта Вялікага ў Коўне. Як успамінала пані доктар, пасля кароткага перапынку вырашыла паехаць у Коўна, каб закончыць адукацыю. Найгорш было з літоўскай мовай, але экзаменатары неяк ласкава глядзелі на віленскіх студэнтаў. У той жа

час маці была вывезена ў Казахстан, хаця, як толькі ўвайшлі саветы, яна сабрала сялян, каб увесь маёнтак падзялілі паміж сабой.

Калі Надзея, свежаспечаная лекарка, вярнулася ў маёнтак Лоша ў 1942 г. пасля вучобы, сяляне прывіталі яе як землеўладальніцу вельмі ветліва: хлебам, соллю і самагонкай. Хацелі ёй аддаць кароў, свіней з двара, каб толькі "пані" засталася ў маёнтку. Аднак Надзея вырашыла працаваць у адпаведнасці са сваёй прафесіяй. Атрымала пасаду лекара ў Крэве. Сарганізавала шпіталь. Сяляне зрабілі ложкі з дошак, жанчыны далі кужаль на пасцель. Сама пані доктар жыла ў былой кватэры нейкага яўрэйскага лекара, дзе было шмат медыцынскай літаратуры, дзякуючы якой самастойна паглыбляла веды. Аднак калі ў 1944 г. усталявалася савецкая ўлада, старшыня мясцовага сельсавета вырашыў ліквідаваць прыватны шпіталь. Акушэрка, якая дапамагала Надзеі, папярэдзіла яе, каб уцякала, бо яе, як і маці, вывезуць. Надзея вырашыла ўцячы ў Польшчу.

Затрымалася ў Гданьску, дзе якраз арганізоўвалася Медыцынская акадэмія і патрэбны былі кадры. Хаця ўлады неахвотна ставіліся да літоўскага лекарскага дыплома, але прынялі яшчэ раз зкзамены і ўладкавалі на работу ў акадэмію. I ўсё сваё жыццё прысвяціла яна медыцыне. Амаль да апошняга дня прымала хворых у сваім доме па вуліцы Каперніка ў Гданьску. Людзі прыязджалі з розных мясцін Паморскага ваяводства. Гэта яна стварыла гданьскую школу дзіцячай эндакрыналогіі. У 1949 г. абараніла доктарскую дысертацыю. У лячэнні часта прымяняла народныя метады: зёлкі, замовы. Гэтай альтэрнатыўнай медыцыне навучылася яшчэ ў дзіцячыя гады, ад "ведзьмы" Агрыпіхі, у Пярловай Горцы. Часта, ведаючы сакрэты натуры, ратавала людзям жыццё ці аблягчала хваробу. Расказвала, як здзівіла дактароў у акадэміі, загаворваючы рожу. Пра свае прыгоды з медыцынай расказала ў кніжцы "Як ведзьма Агрыпіха знахарству мяне вучыла", напісанай ў 1967-м, а выдадзенай у 1991 г. Кніжка настолькі блізкая беларускай магіі, што ажно просіцца, каб перавыдаць яе на беларускай мове. Выдаўцоў у Гданьску, на жаль, не зацікавілі ўспаміны пані доктара "Нашы вучэбнікі і мы", а яна так іх хацела выдаць перад смерцю! Частку ўспамінаў перадала яна мне, і я паспрабавала публікаваць іх у "Czasopisie". Там праляжалі больш года і ад студзеня г. г. пачалі друкавацца ва ўрыўках пад назвай "Успаміны свінапаскі". Пані доктар пісала яшчэ вершы, асабліва калі яе сыны, а мела іх трох, былі малыя. Напісала таксама 69 навуковых прац па педыятрыі і эндакрыналогіі.

***Лена Глагоўская*** *(Гданьск, Польшча)*

• • •

Стараннем камітэта МАБ 18 красавіка ў лашанскім касцёле была адпраўлена імша памяці Надзеі Бітэль-Дабжынскай. На ёй прысутнічаў першы сакратар Пасольства Польшчы ў Беларусі Пётр Гарнцарэк. З мясцовымі ўладамі былі абмеркаваны захады па вяртанню мастацкай спадчыны Льва Дабжынскага і арганізацыі выстаўкі "Шматэтнічнае мастацтва Астравеччыны".

## БЕЛОРУСЫ / ОТВ. РЕД. В. К. БОНДАРЧИК, Р. А. ГРИГОРЬЕВА, М. Ф. ПИЛИПЕНКО. М., 1998. 503 с.




У 1998 г. у Маскве ў серыі "Народы і культуры" выйшла кніга "Беларусы". Яна падрыхтавана калектывам аўтараў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі і выдадзена пры садзейнічанні расійскіх вучоных. Дзякуючы супрацоўніцтву па лініі МАБ мы атрымалі мажлівасць пазнаёміцца з гэтай манаграфіяй, дзе змешчаны звесткі аб этнадэмаграфічных працэсах у Беларусі, рассяленні і колькасці беларусаў у іншых краінах свету, разглядаюцца праблемы узнікнення беларусаў, іх культура і быт. Аўтары, якія прынялі ўдзел у падрыхтоўцы калектыўнай манаграфіі, імкнуліся даць рускаму чытачу поўную карціну жыццядзейнасці беларусаў.

Кніга складаецца з чатырох частак. У першай гаворыцца пра колькасць і рассяленне беларусаў у Рэспубліцы Беларусь, дэмаграфічныя працэсы, антрапалогію і мову, пра беларускую дыяспару. Так, у артыкуле В. Бандарчыка "Колькасць і рассяленне беларусаў у Рэспубліцы Беларусь" сцвярджаецца, што, па дадзеных перапісу насельніцтва 1989 г., колькасць беларусаў на тэрыторыі СССР складала больш за дзесяць мільёнаў чалавек, з іх амаль восем мільёнаў — жыхары Беларусі. На тэрыторыі Беларусі пражываюць таксама прадстаўнікі больш ста іншых народаў. Этнічная сітуацыя і кампактнасць пражывання беларусаў у розных абласцях рэспублікі абумоўлена гістарычнымі абставінамі, суседствам з іншымі дзяржавамі. Таму ў Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях засяроджана большасць рускага насельніцтва, у Гродзенскай і Брэсцкай — палякаў, у Гомельскай і Брэсцкай — украінцаў і г. д. На колькасць і рассяленне беларусаў уплывалі дэмаграфічныя працэсы, аб якіх гаворыцца ў артыкуле Г. Каспяровіч. А ў артыкуле В. Бандарчыка "Этнамоўныя працэсы" разглядаецца станаўленне беларускай мовы як дзяржаўнай у ВКЛ (XIII–XVI стст.), паступовае яе выцясненне польскай мовай у XVI ст., а з другой паловы XIX ст. — рускай. Але, нягледзячы на жорсткасць самадзяржаўя

у адносінах да беларускай мовы, раслі нацыянальная самасвядомасць беларускага народа, нацыянальна-вызваленчы рух, складваліся ўмовы для станаўлення новай літаратурнай мовы. Артыкул С. Мацюніна прысвечаны беларусам, якія сёння жывуць за межамі Беларусі: у краінах СНД, Польшчы, Чэхіі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі і інш. У эміграцыйным руху беларусаў аўтар вылучае некалькі этапаў. Значны выезд беларусаў за межы краіны быў абумоўлены паражэннем паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Затым дзейнічалі эканамічныя абставіны: беззямелле, адсутнасць працы. Трэцяя хваля абумоўлена Першай сусветнай і грамадзянскай войнамі, падзелам Беларусі на дзве часткі. З Заходняй Беларусі таксама выязджалі яе жыхары — і па палітычных, і па эканамічных прычынах. Пяты, вельмі значны паток беларусаў за рубеж звязаны з падзеямі Другой сусветнай вайны, шосты — з абменам насельніцтвам з Польшчай і г. д. Дакладна вызначыць колькасць беларусаў, якія сёння пражываюць за межамі Беларусі, не ўяўляецца магчымым. Вялікая ўвага надаецца аўтарамі матэрыялам па культуры і быту беларусаў.

У другой частцы разглядаюцца земляробчая і промыславая культура беларусаў, тыпы іх паселішчаў, жыллё — сельскае і гарадское, архітэктура, беларускае адзенне, традыцыйныя стравы, іншыя рэгіянальныя асаблівасці. Так, у артыкуле А. Лакоткі “Архітэктура”, гаворыцца аб тым, што побач з традыцыйным народным жыллём у Беларусі гістарычна развівалася і манументальная архітэктура. Ужо ў IX–XII стст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўзнікалі гарады, дзе будаваліся храмы і палацы, якія з’яўляюцца помнікамі культуры.

Трэцяя частка прысвечана традыцыям беларусаў, іх сямейным адносінам, выхаванню дзяцей, быту сельскіх жыхароў і гараджан. У артыкуле Т. Кухаронак “Сямейныя абрады” ідзе гаворка пра народзіны, вяселле, пахавальна-памінальныя звычаі і абрады, провады ў армію, наваселле, выкарыстанне традыцый у сучасных сямейных урачыстасцях. Артыкул Л. Мінько “Каляндарныя святы” прысвечаны святам і абрадам, звязаным з земляробчай працай. Аўтар традыцыйна дзеліць іх на зімовыя, вясновыя, летнія і восеньскія.

У чацвёртай частцы гаворыцца пра народную творчасць беларусаў: іх фальклор, народную харэаграфію, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. У артыкуле В. Бялавінай “Прафесійная культура” разглядаюцца мастацкая літаратура — ад Скарыны да Коласа, Купалы і Караткевіча; тэатр — ад скамарохаў да шматлікіх сучасных тэатральных калектываў, а таксама балет, музыка, кіно, выяўленчае мастацтва, скульптура — іх узнікненне, станаўленне і развіццё.

Рускамоўнаму (а праз рускую мову — і зарубежнаму) чытачу ўпершыню дадзена магчымасць карыстацца фундаментальным даследаваннем жыцця, творчасці, быту і культуры беларусаў, напісаным на сучасным узроўні, з выкарыстаннем сучасных напрацовак беларускага народазнаўства. Да гэтага трэба дадаць, што кніга старанна выдадзена, забяспечана неабходным апаратам. Яе ўпрыгожваюць каляровыя і чорна-белыя фатаграфіі.

***Валянціна Грышкевіч****, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

